

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 51 (13583)

18 — 25 снежня 1992 года

Кошт 3 рублі.



**14 снежня Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч сустрэўся з жыхарамі Горацкага раёна. Рэпартаж з месца падзеі чытайце на старонцы 3.**

# НАДОЕЧЫ

## НОВАЯ ПАРТЫЯ

Падобна на тое, што на Беларусі хутка з'явіцца яшчэ адна партыя: Партыя сацыяльнай справядлівасці Рэспублікі Беларусь. Нядаўна яе аргкамітэт прыняў Зварот да грамадзян, якім падкрэсліў, што лічыць мэтазгодным стварэнне парламенцкай партыі, што толькі планавая эканоміка ў спалучэнні з элементамі свабоднага рынку папярэдзіць канчатковы развал народнай гаспадаркі і дасць магчымасць стварыць збалансаваны ўнутраны рынак.

Гэтыя і іншыя пункты звароту разлічаны на прыцягненне ўвагі беларусаў да новай партыі. Ці адгукнецца народ?

**Франц ЛЯВІЦКІ.**



## Стоп-факт

### ПЕРШЫ НЕДЗЯРЖАЎНЫ

11 снежня ў Доме літаратара адбылася прэзентацыя першага недзяржаўнага універсітэта на Беларусі — Еўрапейскага гуманітарнага. Заснавальнікамі выступілі Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Акадэмія навук Беларусі, Экзархат, Мінгарвыканкам, Міжнародны гуманітарны фонд дый прыватны капітал. Універсітэт ставіць сваёй мэтай вяртанне ў рэчышча гуманітарнай еўрапейскай культуры.

**Альгерд ЗУБРЫЧ.**

### СТУДЭНЦКАЯ ПРЭМ'ЕРА

Мінскі педінстытут славуты сваімі традыцыямі. Вось і сёлета студэнцкі тэатр "Жывое слова" пад кіраўніцтвам Юркі й Алены Чарэнкаў падарылі новадалучаным філолагам свята, якое, канешне, перасягнула межы факультэта. Пад смех і апладысменты ўдзячнай публікі акторы-аматары паказалі жыццё сённяшняга студэнта "ад сесіі да сесіі".

А ў мінулы чацвер у студэнцкім тэатры адбылася прэм'ера. Па матывах апавядання Уладзіміра Караткевіча "Сівая легенда" пастаўлена п'еса "Легенда". На



прэм'еры прысутнічалі й выпускнікі інстытута, якія раней займаліся ў тэатры-студыі. Як яны заначылі, прыемна, што існуе пераемнасць традыцый, не страчана атмасфера студэнцкага братэрства нават у наш нялёгкі час.

**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**

### НЕ АДЦВІЦЕ ВЕРАС, НЕ ПАГАСНЕ ЗОРКА ВЕНЕРА

15 снежня ў "Беларускай хатцы" — філіяле Музея Багдановіча адбылася вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Зоські Верас і 101-й гадавіне з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

Вялікае дзякуй Але Міхайлаўне Ходан і Эдуарду Акуліну за цудоўную арганізацыю вечара, за цёплую атмасферу дома, які памятае Максіма Багдановіча, Зоську Верас, Змітрака Бядулю.

Прагучалі творы Зоські Верас і Максіма Багдановіча і песні на словы Паэта ў прафесійным выкананні Галіны Смолік, Уладзіміра Палупанава, Анатоля Кудласевіча, Эдуарда Акуліна.

Калі захлісне жыццё, каб адпачыць душой, — заходзьце ў "Беларускую хатку" часцей — не пашкадуеце.

**Валянціна СКАРЫНКІНА.**



## ДАБРАЧЫННАСЦЬ



### ХВОРЫМ ДЗЕЦЯМ – НАШЫ СЭРЦЫ

*Перадпавагодні зварот да ўсіх нераўнадушных людзей*

Ідзе да нас, грукаецца ў дзверы Новы год. Ці стане ён новым, радасным, натхнёным і светлым?

Каб атрымаць жаданы адказ, задумаемся: як адчуваюць сябе нашы дзеці, з якім настроем жывуць, чаго чакаюць ад заўтрашняга дня?

Крыўдна і горка, але мусім прызнаць – нашы дзеці ў вялікай бядзе. Іх, бязвінных, найбольш балюча зачапіў чарнобыльскі джын. Яны пакутуюць ад хворай экалогіі, недасканалых медыцыны і педагогікі, бацькоўскай разбэшчанасці, ад эканамічнай дэбільнасці і палітычнай тузаніны.

Існуюць нават дзіцячыя чэргі: каб купіць цікавую цацку, танную вопратку, каларыйную ды чыстую ежу. Але самая заганная чарга – у бальніцы, на лячэнне.

У нашай рэспубліцы існуюць для хворых дзяцей 18 тысяч бальнічных ложкаў. Яны ніколі не пустуюць. На іх, разам з таблеткамі, уколамі, кропельніцамі нашы дзеці будуць сустракаць Новы год.

Беларускі дзіцячы фонд, як таварыства сяброў дзяцей, арганізуе навагоднія падарункі для тых дзяцей-пакутнікаў, каго сустрэне Дзед Мароз у аддзяленнях дзіцячай анкалогіі, кардыялогіі, псіхіятрыі. Мы наведаем дзяцей інвалідаў і ў гарадской дзіцячай бальніцы, хворых дзяцей у Навінках, Аксакаўшчыне. Пабываем на вуліцы Чарвякова ў гомафілаў, на вуліцы Сухой у дзяцей з паталогіяй слыху і мовы, у аддзяленні "Пратэзіст".

Ад імя праўлення Беларускага дзіцячага фонду звяртаемся да кіраўнікоў рэспублікі, народных дэпутатаў, лідэраў усіх партый, грамадскіх арганізацый, камітэтаў і фондаў, да прадпрымальнікаў, да прадстаўнікоў сяла, у Саветы рабочых калектываў і прафсаюзы, да творчай і навуковай інтэлігенцыі з настойлівым заклікам:

Давайце, людзі, сэрцам адчуем дзіцячую бяду. Знойдзем час, жаданне і магчымасці, каб у калядныя, перадпавагоднія дні наведаць кожнае хворае дзіця.

Дзяцей, якія чакаюць нашай спагады і ласкі, можна адшукаць у бальніцах і санаторыях, у дыспансерах і прафілакторыях. Многа дзяцей-інвалідаў жывуць у сем'ях. Іх трэба прыгадаць перад святам, наведаць стомленых ад гора матуль, дапамагчы і паспачуваць ім.

Нагадваем адрасы міласэрнасці: 18 тысяч хворых дзяцей у стацыянарах, 12,5 тысячы дзяцей-інвалідаў, 83 школы-інтэрнаты з хворымі дзецьмі.

Азірніцеся наўкол сябе, добрыя людзі, і зрабіце крок да дзіцячай бяды, сэрцам зразумейце пакуты і смутак малых нашых нашчадкаў, і вам абавязкова захочацца зрабіць дабрачынную справу. А дзеці ўзамен узнагародзяць вас усмешкай, добрым позіркам і пацалункам.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду.**

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

*Магілёў*

### АУ, МІЛЬЯНЕРЫ!

З 1 снежня з Магілёва можна будзе паляцець толькі ў Маскву ды на поўнач з вахтавікамі. Астатнія рэйсы з-за адсутнасці паліва і пасажыраў адменены. Зрабіўшыся непатрэбнымі, лётчыкі рыхтуюцца перакваліфікавацца ў дамакіраўнікоў ды вартаўнікоў. Магчыма, з цягам часу некаторым з іх пашэнціць крыху больш, і яны ўладкуюцца пілотамі асабістых самалётаў навяўленых мільянераў. Апошнія маюць магчымасць аб'яўляць конкурс: у Магілёўскім лётным атрадзе дзесяткі класных лётчыкаў і ў кожнага – сям'я, якую трэба карміць.

*Гародня*

### ПАШТОВЫ ПАДАРУНАК

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь выпусціла серыю паштовых картак з відамі Гародні. На дзесяці паштоўках каляровыя фотаздымкі Каложы, Базыльянскай царквы, Фарнага касцёла, былога дома віцэ-адміністратара, новага тэатра і чыгуначнага вакзала, іншыя віды старога горада. Наклад – 100 тысяч асобнікаў.

**Падрыхтаваў**
**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**

*Гомель*

### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ

У Гомельскім універсітэце адбылася прэзентацыя літаратурнага альманаха "Магістраль-92". Яго склалі і выдалі сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь В.Ткачоў і старшыня літаратурнага аб'яднання імя Анатоля Грачанікава В.Кіеня.

### САЮЗ БЕСПРАЦОЎНЫХ

Ён створаны ў абласным цэнтры. Ужо прыняты адпаведны статут. Члены СБ маюць намер патрабаваць ад улады ўдасканалення заканадаўства аб беспрацоўі, дапамагаць матэрыяльна ўсім, хто апынуўся ў нялёгкім становішчы.

### НАШЫ НОВАБУДОЎЛІ

16-ціпавярховы жылы дом узводзіцца па праспекту Кастрычніка. Ужо закладзены падмурак пад магазін і бібліятэку, якая будзе мець два паверхі. Васьмівугольная форма будынка надасць арыгінальнасць і экзатычнасць праспекту.

**Падрыхтавала**
**Ганна Атрошчанка.**

## ЗАЯВА ВІЦЕБСКАЙ ГАРАДСКОЙ РАДЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ

Віцебская гарадская рада ТБМ 21.10.92 г. правяла пашыранае пасяджэнне, на якім прысутнічалі прадстаўнікі абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры, выкладчыкі і студэнты ВНУ, настаўнікі, прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў горада, выхавальнікі дзіцячых садоў, прадстаўнікі мясцовага друку.

Было адзначана, што апошнім часам у сродках масавай інфармацыі на Беларусі, у прыватнасці ў Віцебску, з'явіліся патрабаванні аб наданні расійскай мове статуса другой дзяржаўнай.

Факт адначасовага з'яўлення публікацый, "круглых сталоў", заяў некаторых ветэранскіх арганізацый з прапановамі аб змяненні Закона аб мовах і надання статуса дзяржаўнай расійскай мове насцярожвае і дае падставу меркаваць аб пэўнай спланаванасці гэтай кампаніі.

Што да сутнасці справы, дык мы лічым:

1. Закон аб мовах, хоць і вельмі марудна, з вялікімі цяжкасцямі, але пачаў дзейнічаць.

2. Гэтая акалічнасць выклікае занепакоенасць у людзей нядобразычлівых да ўсяго беларускага, якія лічаць, што Беларусь, калі яна ў поўную моц загаворыць на сваёй мове, стане зусім самастойнай і незалежнай.

3. Перакручваецца сутнасць справы спасылкамі на лакальныя сацыялагічныя апытанні, якія быццам бы патрабуюць так званага двухмоўя. Назіраецца імкненне стварыць уражанне аб адчужанасці беларусаў ад беларускай мовы. Хоць сапраўднае ўсенароднае апытанне, праведзенае ў 1989 г. пры перапісе насельніцтва, сцвярджае: 80,2 працэнта беларусаў сваёй роднай мовай назвалі беларускую.

4. Наданне расійскай мове, якая ні юрыдычна, ні фактычна не дыскрымінуецца, статуса дзяржаўнай — абраза для суверэннай Беларусі і прыніжэнне годнасці яе народа.

5. Падобны акт, калі б ён адбыўся, прывёў бы да страты міжнароднага аўтарытэту і павагі да рэспублікі і яе народа.

6. Наданне расійскай мове дэ-юрэ статуса дзяржаўнай непазбежна паставіць крыж не толькі на пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы, а і на развіцці ўсёй беларускай культуры, адраджэнні і развіцці як беларусаў, так і прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць тут адвеку.

Гэтую заяву мы накіроўваем у сродкі масавай інфармацыі і Вярхоўны Савет Беларусі.

## Дайджэст

*Расія*

### ВЫСЯЛЕННЕ КАМУНІСТАЎ

Па загаду мэрыі Санкт-Пецярбурга з дапамогай АМАНа адбылося высяленне з былога Дома палітасветы камуністычных арганізацый, якія разам з Аб'яднаным фронтам працоўных (АФП) захапілі шэраг памяшканняў у гэтым будынку і да апошняга часу незаконна займалі іх. Рашэннем мэра будынак Дома палітасветы перадалі Фонду рэгіянальнага развіцця.

*Эстонія*

### ПАКАРАНЫ ЗА СУПРАЦОЎНІЦТВА З ДЗЯРЖБАНКАМ СССР

На пасяджэнні ўрада накладзены мараторый на выкананне рахункаў Акцыянернага банка Паўночнай Эстоніі, Балтыйскага банка. Дырэктара Балтыйскага банка Валянціна Парфільева абвінавацілі ў "выбары памылковай стратэгіі вядзення спраў" (яго банк супрацоўнічаў з Дзяржаўным банкам СССР).

*Украіна*

### БАНК УКРАІНЫ ПАЧАЎ КАНВЕРСАВАЦЬ ЭСТОНСКУЮ КРОНУ

Як вядома, нашых "зяроў" ніхто, нават мы самі, за валюту не лічым. А вось эстонскай кроне ў гэтым плане пашэнціла. Дзяржаўны банк Украіны пачаў яе канверсаваць па курсу 51,50 карбаванцаў. Між іншым, курс карбаванца да латвійскага рубля ды летувіскага талона ўсё яшчэ 1:1.

*Летува*

### ПАСТАНОВА ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ АНУЛЯВАНА

Калегія па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда анулявала пастанову, у сувязі з якой абраныя сябры Сейма не маглі атрымаць мандаты да таго часу, пакуль часовая камісія Вярхоўнага Савета па даследаванню дзейнасці КДБ у Летуве не дасць даведку аб тым, што яны не супрацоўнічалі з КДБ ці сакрэтнымі службамі іншых дзяржаў.

*Украіна*

### КАМПЕНСАЦЫЯ АХВЯРАМ РЭПРЭСІЙ

Дэпутаты парламента разгледзелі змены і дапаўненні да закона аб рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, адпаведна якому былым рэпрэсіраваным будзе выплачвацца кампенсацыя ў памеры адной мінімальнай зарплаты за кожны месяц пазбаўлення волі, але не менш чым 75 мінімальных зарплат. Рэабілітаваны аднаразова атрымае 15 мінімальных зарплат, а астатнюю суму ім выплацяць на працягу 5 год. Па патрабаванню рэабілітаванага ў адпаведных выпадках уся сума можа быць выплачана адразу. Мінімальны памер заработнай платы на Украіне складае 2300 карбаванцаў.

*Кіргізія*

### ЗАГАД ПРЫНЯЦЬ ПРЫСЯГУ

Апублікаваны загад прэзідэнта Кіргізіі Аскара Акаева аб прыняцці вайсковай прысягі ва ўсіх вайсковых часцях, дыслацыраваных на тэрыторыі рэспублікі. Загад датычыцца не толькі кіргізскіх войск, але й усіх фарміраванняў, якія знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, аднак пэўнага статуса не маюць.

*Грузія*

### ДРУКУЕЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВАЛЮТА

Сродкі масавай інфармацыі Грузіі паведамляюць, што ў Парыжы друкуюцца грузінскія грашовыя знакі – лары. Будуць выпушчаны купюры вартасцю 5 тысяч, 500, 100, 50 і 10 лар. На купюры вартасцю 5 тысяч лар будзе надрукаваны партрэт Давіда Будаўніка, 500 лар – царыцы Тамары, 100 лар – Ільі Чаўчавадзе, 50 лар – Акакія Цэрэтэлі, 10 лар – Захарыя Паліяшвілі ды Ніка Пірасмані.

*Паездка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава ШУШКЕВІЧА ў Горацкі раён мела, на першы погляд, адну задачу: параіцца з народам аб лёсе зямлі. З часоў перабудовы выраз "параіцца з народам" стаў штампам. Часцей за ўсё кіраўніку, які выходзіць "у людзі", адкрытым тэкстам скардзяцца, па-першае, на дарагоўлю, па-другое — на маленькую зарплату, па-трэцяе — на мясцовае кіраўніцтва (прычым апошняе — шэптам). Аднак за гэтую паездку Станіслаў Шушкевіч некалькі разоў паўтарыў, што, відаць, добра жывуць мясцовыя насельнікі, скаргаў амаль не чуваць... І ўсё ж чарговая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета з сялянамі перарасла звычайныя рамкі. Бо асноўнае пытанне, якое ўзнімалася пад час усіх размоў, — пытанне аб зямлі. Не сакрэт, што беларускае грамадства раздзялілася зараз на тры групы. Першая, на чале з самім Шушкевічам, за ўвядзенне прыватнай уласнасці на зямлю, другая, куды ўваходзяць, у асноўным калгасныя і саўгасныя кіраўнікі, а таксама некаторыя навукоўцы — катэгарычна супраць, а трэцяя (гэта значыць большасць народа) слухаюць тых, другіх... і маўчаць! Маўчаць, бо не ведаюць, што прынясе ім змена зямельнага заканадаўства, а значыць, і гаспадара зямлі.*



## Як жывеш, вёска?

# ЧАТЫРЫ "ЭЙЧ" СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА

Шушкевічу, здаецца, удалося "разгаварыць" людзей, ён неаднаразова аказваўся ў шчыльным акружэнні сялян. Пасля сустрэчы з кіраўніцтвам Горацкага раёна Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі наведаў дзве гаспадаркі — племгас імя Чкалава і племзавод "Леніна". Гаспадаркі моцныя, заможныя, кіруюць імі сапраўдныя гаспадары — Мікалай Рыгоравіч Блахін і Мікалай Мікалаевіч Ларковіч. У племгасе імя Чкалава Шушкевічу паказалі кароўнік, пад час агляду якога высветлілася, што Старшыня Вярхоўнага Савета карову ад свінні адрозніць можа (менавіта гэтымі словамі ён адказаў на заўвагу аднаго з вяскоўцаў, маўляў, вы, Станіслаў Станіслававіч, у сялянскіх пытаннях не вельмі кампетэнтны). Жарты жартамі, але, на мой погляд, не варта ставіцца да Старшыні Вярхоўнага Савета як да дылетанта ў аграрным пытанні. Ва ўсялякім выпадку, сустрэчы у гаспадарках, а таксама ў Горацкай сельгасакадэміі паказалі не толькі ягоную шчырую зацікаўленасць, але і ўстойлівую палітычную пазіцыю ў адносінах да ўласнасці на зямлю.

...49 гадоў таму на землях племзавода "Леніна" прыняла першы бой дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі — першае вайсковае фарміраванне Арміі Людовай. Цяпер польскае кіраўніцтва лічыць гэты бой радавым эпізодам вялікай вайны. Тым не менш факт застаецца фактам — сотні і сотні палякаў пралілі кроў на зямлі Беларусі, як потым сотні тысяч беларусаў, рускіх, адным словам, савецкіх людзей (гэтае паняцце не знікне, а проста ўвойдзе ў гісторыю) засталіся навечна ляжаць у польскай зямлі. Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч наведаў музей, экспазіцыя якога прысвечана савецка-польскай баявой садружнасці, пакінуў запіс у кнізе ганаровых наведвальнікаў. На цэнтральнай плошчы гаспадаркі адбылася сустрэча з сялянамі. "Баяр" у нас надта многа" — заўважыў адзін з працаўнікоў племзавода. "Калі вы станеце за сваю працу атрымліваць столькі, колькі заслугоўваеце, знікнуць гэтыя "баяры", бо зарабляць яны будуць значна менш, чым вы", — адказаў Шушкевіч.

Асноўная сустрэча, самая напружаная, самая, так бы мовіць, баявая адбылася ў Горках. У вялікай зале мясцовага Дома культуры — навукоўцы, выкладчыкі і студэнты Горацкай сельгасакадэміі, сяляне, кіраўнікі раёна і вобласці. Менавіта тут і магла разгарэцца вострая дыскусія аб уласнасці на зямлю. Але чамусьці якраз пра гэта гаварылі далёка не ў першую чаргу. Паўтараліся старыя аргументы, прадстаўнікі акадэміі так і не змаглі вызначыць сваю пазіцыю — маўляў, мяняць заканадаўства трэба, але што яшчэ з гэтага атрымаецца...

Зямлю заўсёды дзялілі з дапамогай палітыкі сілы. Не хацелася б, каб так атрымалася і цяпер, менавіта таму і патрэбна ясна і абгрунтавана сказаць людзям: каму належыць зямля. Станіслаў Шушкевіч сцвярджаў: калектыўнай уласнасці на зямлю не існуе ў прыродзе, ёсць уласнасць дзяржаўная, і ні ў якім разе нельга блытаць два паняцці — калектыўная ўласнасць на зямлю і калектыўная форма яе апрацоўкі. Старшыня Вярхоўнага Савета яшчэ раз падкрэсліў: ніхто не збіраецца разганяць калектыўныя гаспадаркі. Гэта ў цяперашніх умовах было б не толькі неразумна, а проста злачынна. Тым не менш, ставіць палкі ў колы фермерам ні ў якім разе нельга — хай будзе канкурэнцыя, здаровае спаборніцтва розных форм... Чаго? Уласнасці? Не — спосабаў апрацоўкі зямлі. Канешне, вельмі хацелася б адным ударам забіць тузін зайцоў — надзяліць зямлёю ўсіх жадаючых, не дапусціць яе разбазарвання, стварыць матэрыяльна-тэхнічную

фермерства, не дазволіўшы пры гэтым раскрасці калгасную маёмасць. Шматлікія прыклады паказваюць, што тэхніку, збожжа, угнаенні і ўсё астатняе "прыхватызуюць" у бедных, дрэнна арганізаваных гаспадарках выключна тыя, хто мае ўладу, хто ў добрых адносінах з сялянскімі кіраўнікамі. Але ў тым жа самым племзаводзе "Леніна", на мой погляд, ніхто гэтым займацца не будзе. Адным словам, такую гаспадарку знішчаць нельга.

Прыняцце новага зямельнага заканадаўства працэс складаны. Хацелася б, канешне, задаволіць усіх. Але ці магчыма гэта? І вось якраз тут уваходзяць у сілу чатыры "эйч" — з гэтай літары ў англійскай мове пачынаюцца чатыры словы: сэрца, рукі, галава, здароўе. Мы прывыклі, што нас вядуць. Мы прывыклі, што працавітыя рукі, разумная галава не могуць знайсці сабе прымянення, што баліць сэрца, з гадамі трацiцца здароўе на дасягненне хаця б мізэрнага дабрабыту. Хіба людзі не заслужылі шчасця? Усё ж патрэбна, абавязкова патрэбна, на мой погляд, прыватная ўласнасць на зямлю. І адначасова заканадаўчыя гарантыі таго, што яна будзе выкарыстоўвацца па сваім прамым прызначэнні — карміць людзей, а не пойдзе на шматгектарныя пляцоўкі для гольфа.

Станіславу Шушкевічу прыйшлося адказаць на дзесяткі пытанняў. Яны датычылі і росту цэнаў, і студэнцкіх стыпендый, і праблемы вяртання зямлі яе дарэвалюцыйным уладальнікам, і шмат чаго іншага. На жаль, у невялічкім рэпартажы проста немагчыма змясціць грунтоўныя, прадуманыя, часам вострыя адказы Старшыні Вярхоўнага Савета.

Такія сустрэчы з людзьмі сталі традыцыяй. Хацелася б спадзявацца, што думкі народа, выказаныя (а часам і не выказаныя) непасрэдна кіраўніку парламента, стануць падмуркам такіх неабходных зараз заканадаўчых актаў. Дзень, калі Вярхоўны Савет будзе разглядаць зямельнае пытанне, набліжаецца...

Пад час сустрэчы ў Горках па залі ўвесь час лятаў матылёк. Добры знак?

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**
**Фота С.ПЛЫТКЕВІЧА.**



# ДЗЯКУЙ ТАВАРЫШУ СТАЛІНУ ЗА НАША ШЧАСЛІВАЕ ДЗЯЦІНСТВА

## Як Савецкая ўлада змагалася з дзіцячай беспрытульнасцю ў 20–30 гады

Імперыялістычная вайна 1914—1919 гг., грамадзянская вайна і павальны голад, які спасціг у 1921 г. Паволжа, стварылі вялізную колькасць беспрытульных у краіне.

У 20-я гады дзіцячая беспрытульная маса папаўнялася сіротамі з вёсак і гарадоў. Беспрацоўе, цяжкае матэрыяльнае становішча, хваробы і смерць бацькоў, а потым шырока разгорнутая па ўсёй краіне масавая калектывізацыя, у выніку якой сотні тысяч разбітых сем'яў і тысячы дзяцей вымушаны блукаць па свеце ў пошуках хлеба.

У 1925 г. па Беларусі налічвалася 5 тысяч беспрытульных дзяцей.

З кожным годам сацыялістычнага будаўніцтва колькасць беспрытульных павялічвалася.

Прыток вандруючых дзяцей быў сканцэнтраваны на чыгунцы. Толькі ў Оршы на 1 красавіка 1928 г. іх налічвалася больш за тысячу.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР зацвердзілі пастанову аб мерапрыемствах па барацьбе з дзіцячай беспрытульнасцю ў рэспубліцы.

У 20-я гады гэтым пытаннем займаліся акруговыя, раённыя інспектарыяты народнай асветы. На ўтрыманні акруговых камісій знаходзілася 689 дзяцей.

У Мінску арганізаваны два дзіцячыя дамы на 100 чалавек, у Слуцку — дзіцячая калонія на 45 выхаванцаў.

У Магілёве існавалі дзве дзіцячыя камуны, дзе змяшчалася 100 дзяцей. У Полацку створаны дзіцячы прыёмнік, у Віцебску — сталоўка на 200 месцаў, швальная майстэрня, дзіцячая камуна і яслі.

Дзеля адшукання сродкаў на барацьбу з дзіцячай беспрытульнасцю Цэнтральная камісія дапамогі дзецям прыняла шэраг мерапрыемстваў, самае значнае з якіх — трохмесячнік па дапамозе сіротам. Выпусцілі значок адзінай працоўнай школы ў мэтах паляпшэння грамадскага становішча дзяцей.

У 1924 г. створана ўсебеларускае таварыства "Прыхільнік дзяцей" — "дабравольнае аб'яднанне працоўных, якое ў мэтах усебаковага паляпшэння і аздараўлення быту дзяцей ставіць задачу — папярэджванне і барацьба з беспрытульнасцю ў рэспубліцы". Быў прыняты Статут таварыства, у якім гаварылася аб неабходнасці ліквідацыі дзіцячай прастытуцыі, жабрацтва, п'янства, непісьменнасці, арганізацыі дзіцячых дамоў, камун, клубаў, ясляў, аб барацьбе са смяротнасцю дзяцей, вельмі высокай у той час. Таварыству і яго акруговым органам надаваліся правы юрыдычнай асобы.

Дзяцей здымалі з цягнікоў, міліцыя затрымлівала іх на станцыях, на вуліцах і рынках. З дзіцячых прыёмнікаў іх размяркоўвалі ў дзіцячыя дамы, на якія ўскладвалася задача "выхавання здаровага падлетка".

У 1928 г. на Беларусі 88 дзіцячых дамоў, з якіх 11 яўрэйскіх і 7 польскіх.

Днём дзеці наведвалі школы ці майстэрні, якія існавалі пры дзіцячых дамах: "сталярныя, шавецкія, чамаданныя, панчошныя і інш.", іх мэта — даць працоўныя навыкі, падрыхтаваць да самастойнага жыцця.

Пры дзіцячых установах меліся свае гаспадаркі. Так, пры Вепрынскім дзіцячым доме было 1,5 га саду, дзве каровы, 1 конь, 11 свіней, 2 цялят, 12 гусей. Сродкі ішлі на закупку насення і гаспадарчыя патрэбы: закупку газы, паліва, мыла. Дзяржаўных грошай не хапала.

Выхаванцы дзіцячых дамоў, скончыўшы чатырохгодкі, сямігодкі і дзевяцігодкі па магчымасці накіроўваліся ў навучальныя ўстановы: тэхнікумы, рабфакі, прафтэхшколы. За 1928—1929 гг. па Бабруйскай акрузе накіравана на вытворчасць 96 выхаванцаў.

Але ж пастанова СНК БССР аб прадастаўленні 50 працэнтаў броні пры ўладкаванні на працу выхаванцаў дзіцячых дамоў выконвалася вельмі слаба. Кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў не мелі вялікага жадання браць на працу "беспрытульшчыну".

"Праведзены ўлік гаворыць ужо не аб масавай беспрытульнасці, а толькі аб асобных адзінках яе ў раёнах, як следства натуральнага сіроцтва, распаду сям'і". Няцяжка здагадацца аб прычынах гэтых распадаў.

Другой крыніцай беспрытульнасці былі самі дзіцячыя дамы, іх жахлівае становішча. Пры абследаванні Менскага дзіцячагапрыёмніка высветлілася, што 60—80 працэнтаў затрыманых — выхаванцы дзіцячых дамоў.

"Барсукоўская дзіцячая камуна стала месцам поўнага разлажэння і распусты, — піша шклоўская раённая газета ў 1929 г. (дакладная дата не высветлена). Дзяцей марылі голадам, холадам, здзекаваліся з іх. Уявіце сабе збор голых і босых абэрвусаў, без кашуль, без жаднага абутку. Пасцельнае бялізны на 34 дзяцей няма а ні віткі. На ўсіх выхаванцаў камуна мела 24 брудныя зашмальцаваныя коўдры, якімі не толькі накрывацца, а нават падысці да іх нельга. Што датычыцца ложкаў, то частка іх знаходзіцца ў карыстанні адміністрацыі, таму дзеці павінны спаць на падлозе ў страшэнным брудзе, бо падлогу на працягу ўсёй зімы ніхто не мыў.

Каб дзецям не было нудна, адміністрацыя змясціла ў інтэрнаце трох цялят. А можа гэта было зроблена сумысьля, каб дзеці маглі грэцца, кладучыся спаць разам з жывёлінай на падлозе, без коўдраў і сеннікоў.

Дзеці выглядаюць як камінарнікі, бо ніколі не мыліся, ніколі не хадзілі ў лазню, таму што няма вады. Праўда, на двары ёсць студня, але яе трэба паправіць, а ў гэтай бласлаўлёнай мясціне стопрацэнтнай абломаўшчыны самы маленькі намёк на працу з'яўляецца вялікім няшчасцем. А таму па ваду ў самую сцюдзёную марозную пару прыходзілася ездзіць за дзве вярсты."

Піша шклоўскі раённы доктар: Пры медыцынскім аглядзе выявілася, што некалькі чалавек хварэюць на трахому і інш. заразныя хваробы, на каросту і пнеўманію. Цела ў дзяцей бруднае, усюды поўзаюць вошы".

На 34 чалавекі ў дзень выдавалася 3 кг мяса, а раніцою і вечарам голая гарбата, замест хлеба 400 г мёрзлага цеста, якое адпільвалі пілой.

Часта галодныя дзеці бадзяліся па навакольных вёсках, жабруючы.

Не балавалі ласункам і выхаванцаў Песачанскай дзіцячай калоніі "Чырвоная змена". Пры абследаванні выявілася, што на 15 вядзёр вады для заціркі адміністрацыя калоніі адпускала тры літры малака. "Быў выпадак, калі па загаду дырэктара калоніі тав.Каленчыца кухар паклаў у кацёл "звыш нормы" з мэтай "паляпшэння харчавання" мяса трох трусоў, якія былі парваны сабакамі і падохлі на кухні. Здохлыя трусы дзень ляжалі не абчышчаныя, а пасля два дні моклі ў вадзе.

"Тэмпература ў інтэрнаце ніжэй за 0... Хворы выхаванец Шкуратовіч Станіслаў ляжаў каля разбітага акна на верандзе. Вецер заносіў туды снег. Хлопец пачаў замярзаць і напалову быў засыпаны снегам."

Калі камісія зайшла ў пакоі хлапчукоў, то ўбачыла падраныя, парэзаныя нажамі коўдры, брудную бялізну і страшэнны дзікі смурод. Выхаванцы мачыліся на сенніках і падлозе.

Шкарпэткі і панчохі дзецям не выдавалі. Таму яны рвалі просціны. У дзяўчат няма цёплых хустак, замест іх носяць піянерскія гальштукі.

Між іншым, пры аглядзе камісія выявіла, што ў запасе мелася 288 м прасціннай тканіны, 300 м паркалю, 582 м бялізнавай матэрыі. Усё ляжала ў цюках. Пад замком.

Нельга сказаць, што "Прыхільнік дзяцей" існаваў толькі на паперы.



Яшчэ ў 1929 г. ЦК КП(б)Б паставіў задачу: на працягу двух год пакончыць з вулічнай беспрытульнасцю. Гэта рашэнне ўсклала на таварыства асобую адказнасць у справе разгортвання далейшай работы з беспрытульнымі.

Згодна з пастановай ЦК Кампартыі ад 21 мая 1930 г., таварыства "Прыхільнік дзяцей" павінна стаць цэнтрам мабілізацыі сіл і сродкаў пралетарскай грамадскасці на дапамогу справе камуністычнага выхавання падрастаючага пакалення".

Віцебскае таварыства — адно з буйных і моцных арганізацый у БССР. Яно арганізавала швейнатрыкатажную школу-майстэрню, якая ў 1930 г. выпусціла і накіравала на вытворчасць кваліфікаваных рабочых.

Адбылося адкрыццё першага Усебеларускага дзіцячага дома адпачынку для дзяцей рабочых, адзіночак-работніц і дзетдомацаў у Ратамцы. Летам 1931 г. туды было накіравана 300 выхаванцаў.

У школах арганізоўваліся гарачыя снеданні, адкрываліся ўласныя дзіцячыя сталоўкі. Таварыства аказвала матэрыяльную дапамогу па вывазу дзіцячых устаноў у час летняй аздараўленчай кампаніі.

У 1929 г. на Беларусі існавала 448 ячэек і 25.664 сяброў таварыства. Да 1931 г. гэтыя лічбы павялічыліся больш чым у два разы.

Са сродкаў "Прыхільніка дзяцей" на чыгунцы ў Мінску арганізаваны вагон-прыёмнік, куды за два тыдні трапіла 86 дзяцей, якіх адразу накіравалі на працу на кафельны завод, "Камунарку" і інш. прадпрыемствы горада.

З 1931 г. з боку аргкамітэта шляхам выездаў інструктараў была праверана дзейнасць і арганізацыя ТПД у 38 раёнах.

"У сістэме народнай асветы адно з самых значных месцаў займаюць дзіцячыя дамы і камуны. НКА БССР быў абвешчаны конкурс на лепшую дзіцячую ўстанову. У Магілёве лепшыя водгукі атрымаў яўрэйскі дзіцячы дом імя Гельфанда, умовы ў якім адпавядалі нормам", — піша 4 снежня 1931 г. магілёўская газета "Камунар".

А пры праверцы польскага дзіцячага дома ў Мінску высветлілася, што тры месяцы там выхаванцы не атрымлівалі мыла. "Зубны парашок ёсць, але няма шчотак". Усю гаспадарку складалі 4 трусы, дзве курыцы, "свінні падохлі ад чумы".

У Аршанскім дзіцячым прыёмніку катастрафічна не хапала бялізны, дзеці хадзілі без сподняга, без штаноў і кашуль, частка не мела абутку. З-за адсутнасці шклянак чай дзеці пілі з місак.

Яшчэ больш сумнымі былі вынікі абследавання дома груднога дзіцяці ў Мінску 9 студзеня 1932 г., дзе змяшчалася 39 немаўлят. "Становішча такое, што было б лепш, каб дзеці не трапілі сюды, а памерлі на вуліцы. Дом сыры, са сцен цячэ, ацяпляецца праз дзень або зусім не абаграецца з-за адсутнасці дроў." Тэмпература ў памяшканні была ніжэй чым 5 С, дзеці качанелі, гнілі. Не маючы бялізны і коўдраў, дзяцей накрывалі анучамі, мяшкамі. "Калі мы разгортвалі дзіця, ад яго ішла пара", — падзялілася адна з сясцёр з правяраючымі. Калі абслуговы персанал спыталі аб высокай смяротнасці дзяцей, прагучаў жудасны адказ: "Смерць — адзінае выйсце, каб не расціць інвалідаў, запаўняць імі інвалідныя дамы і гэтым напружваць дзяржаўны бюджэт". Так работнікі дзетдома клапаціліся аб дзяржаўных грошах. А чалавек, маленькі і бездапаможны, быў нішто для магутнай бяздушнай сістэмы.

Своеасаблівыя метады выхавання выкарыстоўваліся ў дзіцячых дамах. Абразы, біццё, здзекі лічыліся звычайнай з'явай. Загадчык ужо ўпамянутай калоніі "Чырвоная змена" Каленчыц, настаўнік Левадзевіч, выхавальнік Корбут ужывалі метад "падштурхоўвання", у выніку якога дзеці хадзілі з сінякамі на твары, на целе. Псіхічна хворая (як потым высветлілася) настаўніца Паплаўская практыкавала іншы спосаб выхавання: "спусканне ўніз галавой з лесвіцы".

З пратакола агульнага сходу выхаванцаў дзіцячага дома з прадстаўнікамі Чэрвеньскай арганізацыі таварыства "Прыхільнік дзяцей" 1933 г.:

"Калі аднойчы зайшоў на кухню, то ўбачыў, што кіраўніцтва есць зусім не тое, што даюць нам. Кіраўнік лагера Шэўцаў на любую заўвагу дзяцей крычаў: "На гаўптфахту!" Абвінавачаных у чым-небудзь садзілі на хлеб з вадой..."

На запытанні выхаванцаў інструктар кравецкай майстэрні Аршанскага інтэрната Беленькі гаварыў: "Закрый сваю плявацельніцу", а кравец Фрумкін на просьбы аб водпуску сыравіны адказваў: "А ты мне што дасі?".

У сваіх дакладах аб выніках праверкі дзіцячых устаноў інструктары таварыства звярталі ўвагу на адсутнасць там палітыка-масавай работы. "Дзеці не ведаюць, аб чым гаварыў тав.Сталін у нядаўняй прамове", — хвалююча піша аршанская раённая газета "Ленінскі прызыў" 5 чэрвеня 1935 г.

Прышыбленыя і загнаныя, яны не мелі ніякага ўяўлення аб нармальных чалавечых адносінах, не гаворачы ўжо аб палітычных падзеях. Выхаваўчай работай займаліся людзі бяздарныя і неадукаваныя, а падчас яшчэ і псіхічна хворыя.

"Лозунг правадыра "Кадры вырашаюць усё" павінен стаць баявой праграмай работнікаў інтэрната!" ("Ленінскі прызыў" ад 5 чэрвеня 1935 г.)

Згодна з пастановай ЦК ВКП(б)Б ад 5 жніўня 1935 г. таварыства "Прыхільнік дзяцей" было ліквідавана. З беспрытульнасцю "больш-менш" пакончана.

**А.ДАЛІДОВІЧ,**
**вядучы археограф ЦДАКР РБ.**

## *Навіны з даўніны*

### З ЗАГАДАЎ РАБФАКА БДУ:

### Ад 20.10.33 года:

"Выкладчыцу польскага аддзялення фізікі т.Прэднель, якая не аслабанілася ад рэлігійнага дурману, выконвала рэлігійныя абрады, як ідэалагічна не вытрыманую і няздольную (заўвага аўт. – Тэкст захоўваецца ў арыгінале, так будзе і надалей) даць марксісцка-ленінскае выхаванне студэнтам, зняць з работы выкладчыка".

### Ад 20.10.33 года:

"Студэнта III курса Парашчанку Лявона выключыць са складу студэнтаў за адзін прагул. Акрамя гэтага, вёў класава варожую гутарку на калідоры аб тым, што чыстка партыі ёсць прымус".

### Ад 9.10.33 года:

"Выкладчыка гісторыі класавай барацьбы Трухнова Г., бацькі якога мелі кулацкую гаспадарку, займаліся спекуляцыяй, трымалі сувязь з бандытамі. Сам Трухноў раней меў цесную сувязь і зараз падтрымлівае яе са сваімі бацькамі. Як скрыўшага соц.паходжанне і соц.чуждага, зняць з працы.

Падстава: дакладная запіска загадчыка яўрэйскага аддзялення Цывіна".

### ВЫНЯТКА З ПРАТАКОЛА АГУЛЬНАГА СХОДУ СТУДЭНТАЎ РАБФАКА БДУ ад 15.01.32года:

"Паднос Н. у час заняткаў абазваў яўрэйку т.Косавер жыдоўкай. Т.Паднос, еўшы ў сталоўцы, аблаяў мацернымі словамі партрэт т.Сталіна, кажучы: "Няхай бы ты еў такі суп, як я". Т.Паднос адмовіўся падпісацца на пазыку 3-й вырашаючай пяцігодкі. Т.Паднос Н. выказаў думку сярод таварышаў па пакоі аб тым, што ён лепш паехаў бы ў Польшчу, чым быць тут"



### Загад № 2 ад 31.01.32 года:

"Студэнта I курса Падноса Н. за антысавецкае і антысеміцкае выступленьне выключыць са складу студэнтаў".

### ЗАГАД ад 25.02.35года:

"Як сац.чужога, скрыўшага пры паступленні на рабфак, што бацька да рэвалюцыі меў 17 дзесяцін зямлі і 6 дзесяцін лесу, карыстаўся наёмнай сілай, студэнта III курса рабфака Федарынчыка з ліку студэнтаў выключыць".

### ЗАГАД № 18 ад 1 мая 1935 г.:

"Няхай жыве міжнароднае пралетарскае свята 1 Мая – дзень баявога агляду і дэманстрацыі рэвалюцыйных сіл пралетарыяту.

Няхай жыве наша слаўная Чырвоная Армія – баявы абаронца заваёў Окцябра.

Няхай жыве Ленінская камуністычная партыя і яе стальны рулявы, правадыр сусветнага пралетарыяту – т.Сталін".

# АШУКАНАЯ КНЯЗЁЎНА

*Старажытныя летапісы надзіва няўважліва ставіліся да жанчын. Іх творы насычаны мужчынскімі іменамі. А вось імёны прадстаўніц "слабога полу" сустракаюцца ў іх вельмі рэдка і толькі ў сувязі з якім-небудзь неардынарным здарэннем. Прычым датычыць гэта нават дачок вялікіх князёў. Яркім прыкладам таго могуць быць радкі Радзівілаўскага летапісу: "Рогнед(ь),юже посады на Лыбеди, есть н(ь)нЪ селце Предславино, от неяж(е) роди 4с(ы)ны: Изяслава, Мьстислава, Ярослава, Всеволода и 2 дщери". Вось так. Нават дачок Уладзіміра не палічыў за патрэбнае назваць летапісец. Не ўказаў іх імёны пры пераліку дзяцей Уладзіміра і Нестар у сваёй "Повести временных лет". Праўда, пазней ён двойчы прыгадаў імя старэйшай — Прадславы. Сустракаецца яе імя і на старонках заходнееўрапейскіх хронік. А вось з імем малодшай сястры адбываюцца наогул дзіўныя справы. Нестар называе яе Праміславаю, а польскія гісторыкі то Мечыславаю, то Мсціславаю.*



А між тым, першая з названых князёвен, красуня Прадслава, была любімай дачкой князя Уладзіміра. Сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што "сяльцо", у якім жыла Рагнеда і яе дзеці, атрымала пасля нараджэння дзяўчынкі назву Прадславіна. У гэтым жа сяльцы раслі дзеці княгіні пасля таго, як іх маці са старэйшым сынам былі сасланы ў Заслаўе. Тут, недалёка ад Кіева, прайшло іх дзяцінства і юнацтва. Адсюль раз'ехаліся ўзмужнелыя сыны Рагнеды па розных гарадах на княжанне. Сёстры ж іх засталіся. Можна меркаваць, што той час, калі яны жылі без маці, зблізіў дзяцей, прывучыў да неабходнасці дапамагаць адзін аднаму. Гэтыя пачуцці праявіліся ў час падзей, якія адбыліся пасля смерці іх бацькі.

Абедзве дачкі Рагнеды атрымалі ў спадчыну ад маці яе незвычайную прыгажосць. Асабліва славілася ёю Прадслава. Вядома, што польскі кароль-рыцар Баляслаў Храбры закахаўся ў маладзенькую князёўну настолькі моцна, што настойліва прасіў яе рукі ў кіеўскага ўладара. Але атрымаў адмову, якая абразіла яго. Польскі храніст Марцін Галус нават піша, што пазней менавіта жаданне завалодаць Прадславай падштурхнула Баляслава на вайну з Кіевам. Але гэта, канешне ж, перабольшанне. Храністу проста дакладна было вядома, як глыбока запала ў сэрца старога лавеласа-караля яркая прыгажосць дачкі Рагнеды.

Наогул невядома, для каго захоўваў Уладзімір найпрыгажэйшую са сваіх жамчужын, каго хацеў ён бачыць мужам Прадславы? Зразумела, што з такою прыгажосцю ды паходжаннем не з'яўлялася праблемаю знайсці ёй дастойную партыю. Але – загадка гісторыі! Уладзімір так і не ўладкаваў Прадславін лёс.

Ён памёр пасля доўгай хваробы 15 ліпеня 1015 года. Месца Уладзіміра заняў старэйшы сын, Святаполк. Амаль адразу паміж сынамі нябожчыка пачалася крывавая барацьба. Першым загінуў Барыс. Забойцы, якіх падаслалі да яго, перабілі і большасць отракаў, што былі з ім. Уцалеў толькі Майсей Угрын. Ён дабраўся да Кіева і звярнуўся да Прадславы. Расказаў ёй пра крывавыя падзеі. Напэўна, яму належыць першае сцвярджэнне аб тым, што натхніцелем гэтага злачынства быў Святаполк. Бо пра небяспеку менавіта з яго боку вырашыла папярэдзіць князёўна свайго брата Яраслава. З гэтай мэтай яна пасылае ганца ў далёкі Ноўгарад (дзе той княжыў). У таемным лісце было толькі некалькі радкоў: "ОтецЪ ти умерЪ, а СвятополкЪ сЪдитЪ ти КыевЪ, убивЪ Бориса, а на ГлЪба посла, а блюдися его повелику". Пэўна, нядрэнная "агентура" была ў князёўны, калі яна ведала аб тым, што збіраюцца забіць Глеба, і аб тым, што небяспека навісла і над іншымі братамі. Наогул Прадслава актыўна ўключылася ў барацьбу супраць Святаполка. Паводле сведчання Кіева-Пячорскага пацерыка ("Жыціе св.Антонія") яна хавала ў сваім сяльцы не толькі Майсея, а і іншых ворагаў вялікага князя.

Яраслаў у Ноўгарадзе пачаў падрыхтоўку да барацьбы. Тым часам быў забіты князь Глеб. Прынята лічыць, што і ў гэтым злачынстве вінаваты Святаполк. Праўда, у апошні час выказваюцца меркаванні, якія абвяргаюць гэта сцвярджэнне. Напрыклад, Г.Філіст у кнізе "История "преступлений" Святополка Окаянного" даказвае, што віна за гэта забойства ляжыць на Яраславе. Ён спасылаецца на тое, што Святаполк быў старэйшым сынам Уладзіміра і па праву заняў месца бацькі. І таму не меў неабходнасці забіваць сваіх братоў. Ён лічыць, што гэта Яраслаў такім чынам "расчышчаў" сабе дарогу да велікакняжацкага прастола. Хто з даследчыкаў мае рацыю – цяжка сказаць. Але вядома, што Яраслаў павёў актыўную барацьбу за панаванне ў Кіеве. Ён сабраў вялікае войска. Яно складалася з трох тысяч наўгародцаў і тысячы варагаў. З гэтымі сіламі наўгародскі князь у 1016 годзе выступіў супраць Святаполка. Той хутка даведаўся аб паходзе брата і пачаў збіраць войска па ўсёй Русі. Да таго ж, запрасіў печанегаў. Сабраўшы ўсе гэтыя сілы ў адно войска, рушыў насустрач. Войскі сустрэліся ля горада Любеча. Размясціліся яны на розных берагах Дняпра. Ні той, ні другі не адважваліся пачаць пераправу. Ішлі дзень за днём, тыдзень за тыднем, а варожыя раці так і заставаліся на сваіх месцах. Невядома, чым бы скончылася гэта супрацьстаянне, каб не кіеўскі ваявода Воўчы Хвост. Той выехаў на кані на бераг і аблаяў наўгародцаў. Выказаўся наконт таго, што яны не воіны, а цесляры і паабяцаў-прыгразіў ім: "Вось мы прымусім вас будаваць нам харомы"

Наўгародцы моцна пакрыўдзіліся. Яны прыйшлі да свайго князя і папярэдзілі, што заўтра ж пераправяцца на той бераг. Пры гэтым прыгразілі: "...калі хто не пойдзе з намі, таго самі заб'ём". Яраслаў вымушаны быў даць згоду.

Вечарам наступнага дня пачалася пераправа. Каб ніхто не збег з поля бою, наўгародцы пасля яе заканчэння пусцілі лодкі па цячэнню. Потым ціха пастроіліся ў палкі. Апусцілася ўжо цёмная ноч. Войскі Святаслава размяшчаліся паміж двух азёр. А саюзнікі-печанегі стаялі лагерам на процілеглым беразе аднаго з іх. Восеньскія маразы пакрылі ваду нетрывалым яшчэ лёдам. Ноч была халодная. Магчыма, з-за гэтага, а, можа, з-за пачуцця бяспекі Святаполк са сваёю дружынай п'янстваваў. Яго ахова праваравіла пераправу ворагаў і іх набліжэнне. Удар наўгародцаў быў настолькі нечаканым, што шмат хто з ваяроў Святаполка не паспеў нават узброіцца, як быў забіты. Але хутка кіяўляне ачухаліся. Пачалася жорсткая сеча. Войска Святаполка змагалася адчайна, але сілы аказаліся ўжо няроўнымі. Князя з дружынай прыціснулі да берага аднаго з азёр. Яны пачалі адыходзіць па лёдзе да процілеглага берага – да печанегаў, якія стаялі там і нічым не маглі дапамагчы. Лёд быў яшчэ тонкі. Ён не вытрымаў, і мноства дружыннікаў Святаполка патанула. Самому ж кіеўскаму князю пашчасціла выратавацца. Ён збег у Польшчу да свайго цесця (Святаполк быў жанаты на дачцэ Баляслава Храбрага).

Яраслаў увайшоў у Кіеў. Ён узнагародзіў ваяроў і адпусціў іх дадому. Князь быў упэўнены, што на Русі ўсталяваўся мір. Але памыліўся. Святаполк распачаў новую вайну. Ён звярнуўся па дапамогу да польскага караля Баляслава Храбрага. Той згадзіўся адпомсціць за зяця. Да таго ж марыў вярнуць чэрвеньскія землі, якія адваяваў у палякаў князь Уладзімір.

У 1018 годзе Баляслаў выступіў у паход на Кіеў. У войску былі не толькі палякі. Далучыліся да яго немцы, венгры і печанегі. Сустрэча варожых раццей адбылася 22 ліпеня на памежнай рэчцы Заходні Буг. Спачатку паўтарылася тая ж сітуацыя, што і пры першай сустрэчы войск Святаполка і Яраслава. Ворагі стаялі на процілеглых берагах і не рашаліся перапраўляцца. І зноў да пачатку рашучых дзеянняў прывяла насмешка ваяводы. Толькі на гэты раз насміхаўся ваявода Яраслава Буды. Той аблаяў Баляслава самымі бруднымі словамі са свайго лексікона. А потым прыгразіў яму: "Вось пачакай, ужо мы праткнём кап'ём пуза тваё тоўстае!"

Баляслава гэта смяротна пакрыўдзіла. Асабліва намёк на яго паўнату. Летапісец так апісаў яго знешнасць: "...былЪ велик и тяжелЪ и сЪ трудомЪ сидЪл на лошади, но зато былъ смышленъ." Кароль звярнуўся да свайго войска і сказаў: "Адпомсцім, або адзін загіну", і верхам на кані кінуўся ў раку. Яго войска натхнілася прыкладам свайго кіраўніка, і дружына кінулася ў ваду за ім. Іх дзеянні былі настолькі нечаканымі, што войскі Яраслава не паспелі нават ачухацца. Яны былі хутка разбіты. Яраслаў цудам выратаваўся. Паводле сведчання летапісца, з ім засталіся толькі чатыры ваяры. Разам з імі князь накіраваўся да Ноўгарада.

Палякі ж "вииде в Киев", дзе ў гэты час былі сёстры Яраслава. Баляслаў узяў іх у палон. Ён амаль у гэты ж дзень накіраваў у Ноўгарад кіеўскага епіскапа. Той павёз да Яраслава прапанову польскага караля абмяняць яго сясцёр на сваю дачку (жонку Святаполка), якая была захоплена раней Яраславам.

Яраслава ж напалохала магутнасць войска польскага караля. Да таго ж, ён баяўся брата. Таму збіраўся збегчы за мора. Ён разлічваў знайсці прытулак у варагаў. Але наўгародцы не далі яму зрабіць гэтага. Наўгародскі пасаднік Касцянцін (сын Дабрыні) і яго аднадумцы пасеклі ладдзі, на якіх збіраўся збегчы іх былы князь. Яны заявілі яму: "Гасудар! Мы жадаем і можам яшчэ супраціўляцца Баляславу. У цябе няма казны: вазьмі ўсё, што мы маем". Яны аб'явілі аб спецыяльным грашовым зборы з усіх жыхароў наўгародскай зямлі. На сабраныя грошы ўзброілі гарадское апалчэнне і запрасілі на дапамогу "карыслівых варагаў". За ўсімі гэтымі падзеямі Яраслаў ці то не знайшоў часу, ці то не пажадаў адказваць на прапанову Баляслава.

У гэты ж час польскі кароль адпусціў дадому іншаземных наёмнікаў і частку свайго войска. Астатніх разаслаў на кармленне па розных гарадах Кіеўшчыны. Ганарыстыя палякі паводзілі сябе ў іх вельмі нахабна. Яны крыўдзілі насельніцтва гэтых гарадоў. Святаполк (што адразу пасля захопу Кіева быў зноў абвешчаны вялікім князем), якому надакучыла апекаванне яго цесця, загадаў знішчыць палякаў у тых гарадах, дзе яны былі размешчаны. Гэты загад выканалі. Палякаў усюды пачалі бязлітасна знішчаць. Баляслаў даведаўся пра гэта. Ён спешна пакінуў Кіеў і накіраваўся на радзіму. Паколькі ж ад Яраслава вестак ніякіх не было, то ён "вЪзме имЪнье и бояры ЯрославЪ и сестрЪ его..." Польскі кароль назаўжды пакінуў Русь, але ён утрымаў за сабой чэрвеньскія землі.

У хуткім часе пасля гэтага наўгародцы выступілі на Кіеў. Святаполк накіраваўся да печанегаў. Ён прывёз адтуль велізарнае коннае войска. Бітва адбылася ў 1019 годзе на беразе ракі Альты. Сеча ішла з ранку да позняга вечара. Тры разы сыходзіліся абодва войскі. Летапісец паведамляе, што такой сечы не было на Русі. Нават коп'і затупіліся, а па далінах кроў ручаямі цякла. Перад заходам сонца стала зразумела, што перамагае Яраслаў. Святаполк кінуўся ўцякаць. Ад узрушанасці ў яго "ослабЪли всЪ члены и кости". Ён увесь час паўтараў: "Бяжыце, бяжыце, даганяюць нас". З гэтымі словамі ён і памёр у пустынным месцы "...межю Ляхи и Чехи".

Яраслаў заняў велікакняжацкі стол і пачаў умацоўваць дзяржаву. Але і ў гэты час ён не ўспомніў пра гаротныя лёсы сваіх сясцёр. Не зрабіў ніводнай спробы вызваліць іх з няволі. Князь, якога празвалі Мудрым, быццам забыўся і на гады далёкага дзяцінства, і на тое, як дапамагала яму Прадслава, як папярэдзіла яна яго аб небяспецы.

А лёс князёвен за мяжой, між тым, склаўся па-рознаму. Малодшую ўзяў у жонкі саюзнік Баляслава па кіеўскаму паходу, венгерскі князь Ласла Лысы. Значна больш горкі лёс у старэйшай. Сучаснік гэтых падзей – нямецкі храніст Дзітмар – пісаў: "Адну з іх, раней жаданую, стары распуснік Баляслаў узяў ганебна – (г.зн. прымусіў быць наложніцай). Прыгадваюць гэта і польскія храністы, і нашы летапісы. Праўда, беларускі археолаг Сяргей Тарасаў у артыкуле "Адкуль прыйшло хрысціянства ў Беларусь" (змешчаны ў першым нумары часопіса "Полацак" за 1992 год) сцвярджае, што яна выйшла за чэшскага князя Баляслава III Рудога. Хацелася б спадзявацца на гэта. Але адкуль такія звесткі? Ні ў адной са старажытных хронік не гаворыцца пра далейшы лёс няшчаснай князёўны. Не ўказваюць нічога і творы пазнейшых даследчыкаў. Далейшыя звесткі пра князёўну, якую пакінуў на гвалт і здзекі ворагам горача любімы ёю брат, знікаюць у цемры стагоддзяў, у раўнадушнай да людскіх лёсаў плыні часу.



Баляслаў ХРАБРЫ

Мікола БАГАДЗЯЖ.

1. Малюнак Насці ПЕЧНІКАВАЙ,

2. Гравюра з кнігі А.Гваньіні "Описание Европейской Сарматии".



Людміла ШЧЭРБА

* * *

Боль... І восеньскія слёзы
за туманным шклом.
Без цябе жыццёвай прозай
поўніцца мой дом. Напішу на жоўтым лісці
наш з табою верш.
Толькі дзе ты? Адгукніся!
І ў сустрэчу вер.

* * *

Стары Вечар свечкі клапатліва
на нябёсах цёмных запаліў.
У лампадку месяца маўкліва
свежага алею ён падліў.
Кнігі Вечнасці разгарнуў старонкі
і пачаў упісваць за радком радок...
Будзе працаваць паважна, плённа,
покуль сонца не затушыць змрок.

* * *

У ліпкай павуціне слоў
я б'юся, быццам матылёк...
Людзей ілжывая любоў
заблытала знарок.
Не кожны думкі распазнае,
ну а хто змог — той скарыстае...
О, колькі ў павуціне слоў
яшчэ загіне матылькоў.



* * *

Сэнс жыцця шукаў адвеку,
але Нехта асудзіў:
не дамо мы чалавеку
для спазнання сэнсу сіл.

Хай ён ходзіць, хай блукае
ў беспрасветнай цемнаце.
Усё роўна не спазнае
і ў шуканні прападзе.

Сэрца змучана і цела,
і не знойдзены адказ...
Так фартуна захацела,
так Жыццё смяецца з нас.

* * *

Сэрца халоднае.
Ноч непраглядная.
Стомлена свечка гарыць.
Слёзы разбіліся,
смуткам адбіліся —
боль у вачах так крычыць.
Словы нячутныя,
вобразы мутныя
тоўпяцца, чэзнуць, бягуць.
Кветкі застыглыя,
мары астылыя
не ўваскрасіць. Не вярнуць.

* * *

Ты не змог пачакаць —
я цябе не суджу.
Ты не змог утрымаць —
я ў бяздонне лячу.

Твае вусны астылі,
твае рукі, як лёд.
Ты вачыма пустымі
пранізаў навылёт.

Не змагла адагрэць
мару-птушку сваю.
Не кахаць. Не ляцець...
Толькі роспач п'ю.



АНАТОЛЬ БРУСЕВІЧ



ЛІХТАР

Па дванаццатай. Ноч. Ані гука, ні зоркі наўкол.
Цені дрэваў у сне падпіраюць нябесную столь.

Галаву пахіліўшы, стаіць адзінокі ліхтар
Вецер дзіка смяецца, кідае лісты яму ў твар.

Хутка згасне і ён, каб надоўга пакінуць мяне.
Пахаваецца ўсё, зачыніўшыся ў чорнай труне.

НА ШКОЛЬНЫЯ ТЭМЫ

Праз пяць хвілін пайду я ў школу.
Ну а пакуль —
настрой не скончыўся вясёлы.
Ад кропель-куль
дрыжыць жалезны падваконнік.
Як бы знарок —
праз пяць хвілін ізноў зазвоніць
дурны званок.
Не хутка скончацца заняткі,
мабыць, таму,
што нават добрыя адзнакі
прыносяць сум.
Пасля дамоў прыйду стамлёны...
Прайшоў мой час.
Мяне чакае ў школе соннай
няўтульны клас.

* * *

Ранак. Нядзеля. Заспаную вёску
хутае змрок і спакой.
Добра наўкол, але лепей у ложку
побач з дзяўчынай якой.

Недзе на лузе, каля крыніцы,
дрэмле аблок на суку.
Зараз вады б... Хаця — лепей напіцца
кавы або каньяку.

Сон адышоў, прыхапіўшы дзяўчыну,
каву і смачны каньяк...
Ранак. Нядзеля. На шыбіне пыльнай
сонца пакінула знак.

*Наша хроніка*

Літаратурнымі прэміямі газеты "Чырвоная змена" за 1992 год адзначаны наступныя сябры літаб'яднання "Крыніцы":

ПРОЗА

Надзея ЧАРОПКА — за апавяданні "Двое", "Апошні ліст", "Allegro", "Сон", змешчаныя ў чэрвеньскім літвыпуску "ЧЗ".

Вячаслаў ВАШЭЙКА — за апавяданне "У дзень нараджэння" ("ЧЗ", жнівень).

ПАЭЗІЯ

Андрэй ПЯТКЕВІЧ — за нізку вершаў ("ЧЗ", лістапад).

РЭЦЭНЗІІ

Сяржук МІНСКЕВІЧ — за рэцэнзію "Восень кароткага, адвечнага часу" (на зборнік вершаў Т.Сапач); "ЧЗ", люты.

Рада "Крыніц".



КАСТУСЬ ЕЛІСЕЕЎ



ВАРЫЯЦЫІ

* * *

Знічка натоўпу,
дзе вочы твае?
Ты — птушанё
ў чаканні паўночным...
Чуеш мой голас
няіснасці веры?
Цэгла натоўпу,
што брук на паперы...
Змоўклы твой вобраз
вочы хавае.
Белыя твары
ў люстрах трамваяў...

* * *

Дождж жаху
слязьмі
на касцёльнай страсе.
Дождж
слязьмі жаху
ў бяленькай руцэ —
сціснута б'ецца над шэрым прытулкам.
Дождж
слязьмі жаху
ў цямноцці завулкаў.

* * *

Скразнякі. Дзверы бразнулі там...
Я спускаюся ўніз, у слізотны туман —
і з пад'езда выходжу, з цяплыні муроў.
Застаецца пустэча тваіх недамоў.

### НАКЦЮРН

Быццам белыя лебедзі, рукі —
уверх і ўніз,
уверх і ўніз.
Рассыпае чароўныя гукі
піяніст,
піяніст.
Растрывожыў накцюрнам пявучым
сіняву,
і у зоркавы россып бліскучы
я плыву.
Трапяткая мелодыя льецца...
Дзіўны сон!
Зноў захоплена музыкай сэрца
у палон!

* * *

Я ў пошуме траў вылучаю
твой голас, зямля,
і трывогі твае ахінаюць мяне,
нібы хвалі,
і сама я, як тая травінка
сярод бадылля,
што дрыжыць, каб яе разам з тым
бадыллём не сарвалі.
Я — травінка твая, я — крывінка твая,
я — твой сум.
Зачапіў і мяне свежы вецер,
адчуўшы раздолле.
Ты змагацца павінна, зямля,
за мой лёс і красу,
калі выстаю я — будзе жыць
і жытнёвае поле.
Як трывожна гартаць дзён тваіх
палыновых чаргу,
як балюча пачуць — зноў званы
аб бядзе зазванілі.
Я аддаць табе зрок свой, зямля мая,
сёння ж магу,
толькі б колер блакітны свой
вочы твае не змянілі.

### ВАНДАЧКА

— Вандачка-чарнушка,
ты чыя дачушка,
ты чыя каханка,
Вандачка-цыганка?
— Як у полі вішня,
у жыцці я лішня,
пеляшчуся ў горы,
як качурка ў моры.
— Ванда-сірацінка,
ціхая дзяўчынка,
дзе ж ты падрастала,
з каго прыклад брала?
— Як вішанька ў полі,
я расла ў няволі,
у доме дзіцячым —
дзе ж яшчэ іначай?..
Мне не пела "Гулі"
родная матуля,
не назвалі кветкай
ні бабка, ні дзедка.
А як замуж выйшла —
пачарнела вішня,
вецце распрастала —
з вішні прыклад брала.
З вішні брала прыклад,
да жыцця прывыкла.
І жыву, і дбаю,
бо дачушку маю.
Праз усё на свеце
я прайсці павінна
дзеля той дзяўчынкі,
вішанькі-галінкі.

Людміла КЕБІЧ

### ПА ЗАКОНАХ МУЗЫКІ

Я жыву па музычных законах:
развіццё, кульмінацыя, спад,
то хістанне ў бакі на паўтонах,
то шчаслівых кадэнцый каскад.

У жыццёвай маёй партытуры
нечаканасцей хоць адбаўляй:
са знаёмай рытмічнай фігуры
раптам выб'е сінкопы страла.

Затрымае імгненне фермата —
не прайдзі мімаходзь харастваі!
І напомняць дыезныя краты
небяспечнасць майго рамяства.

Я жыву па музычных законах,
дзе бліскучых пасажаў узлёт,
дзе ў канве непарушных канонаў
усё больш недаверлівых нот.





Млыны ў в.Кабылаўка

Малюнак Марысі Кулецкай.

*Апавяданне*



# КАНТАКТ

Мікола КАСЦЮКЕВІЧ

Калі я расказваю сябрам, што меў кантакт з іншапланетнай цывілізацыяй, мне ніхто не верыць. Адно смяюцца: "Пісьменнік! Скажы, што ў цябе кантакт з дзяўчынай не адбыўся...". Ну і Бог з імі!

У той сонечны дзень мы з калегам-няўдачнікам пасля чарговага бадзяння па рэдакцыях сядзелі ў бары. Некалькі размораных мух гудзелі над працёртымі ліпкімі сталамі. Мы цягнулі з куфляў светлае піва і разважалі, чаму розных рамеснікаў ахвотна друкуюць, а сапраўдным талентам (гэта значыць нам) нідзе няма ходу. Прынясеш рукапіс у рэдакцыю, яго ўважліва прачытаюць, пахваляць — і не возьмуць. Настрой быў паганы.

— Зірні, якая лялька, — калега штурхануў мяне і кіўнуў на дзяўчыну, якая адзінока паліла цыгарэту за суседнім столікам.

Паглядзець сапраўды было на што: пышныя белыя валасы, кароткая жоўтая сукенка, перацягнутая на тонкай таліі чорным пасам, і доўгія загарэлыя ногі...

Прыемна ісці па вуліцы з прыгожай дзяўчынай. Асабліва, калі толькі што з ёй пазнаёміўся. Мая даўганогая сяброўка адразу дала зразумець, што хаты ў яе няма, і я хуценька прыкідваў, куды нам падацца.

Мы прайшлі Верхні горад і спыніліся перад домам масонаў.

— Што гэта за абгарэлая развальна?.. — яна папраўіла на асмужаным плячы раменьчык ад сумачкі і запытальна паглядзела на мяне.

Я ў двух словах абмаляваў трохвяковую гісторыю будынка.

— А ў сярэдзіне там што? — тон быў абыякавы, але я зразумеў, да чаго яна хіліць.

Мы абышлі будынак і на задняй сцяне, над абрывам, знайшлі акно з аддзёртай бляхай. Я хацеў падсадзіць, але паненка ўскараскалася сама, пазнаёміўшы мяне з фасонам белых трусікаў.

Затхлы змрок першага паверха праразвалі сонечныя прамяні са шчылін на вокнах. Мы прайшлі ў сярэдзіну і па брудных сцёртых прыступках падняліся наверх. Сцены без даху і парослая травой падлога адпавядалі рамантычнаму настрою, на які я сябе спрабаваў наладзіць. У гэтым ёсць сваё хараство: цёплы летні дзень, напаўразвалены будынак у бязлюдным месцы і незнаёмая прыгажуня, якой хочацца таго ж, чаго і табе.

Цалавалася яна выключна, а лёгкі пах парфумы ўзбуджаў не меней за пругкае маладое цела. Я злавіў губамі набухлы сасок. Перарывіста дыхаючы, яна ажно застагнала ад задавальнення. Яшчэ крыху — і...

— Малайчына, што прыйшоў. Ты мне патрэбен. — Я ўздрыгнуў і рэзка азірнуўся на незнаёмы голас. Побач нікога не было.

— Ты што, коцік? — агністыя дзявочыя вочы глядзелі незадаволена.

— Так, падалося. — Я яшчэ раз азірнуўся і зноў запусціў рукі пад сукенку.

— Табе не падалося, — той жа рэзкі чужы голас. — Але я пачакаю, пакуль ты скончыш.

Я адштурхнуў дзяўчыну — зараз нехта моцна пашкадуе. Такіх жартаў я не любіў.

— Ды хопіць табе торгацца, — паспрабавала затрымаць мяне каханка, але я зняў яе далонь.

— Няўжо ты не чуеш, што тут нехта хаваецца і цікуе за намі?

За дзвярным праёмам, на лесвіцы, нікога не было. Суседні пакой таксама быў пусты. Збянтэжаны, я вярнуўся да дзяўчыны. Яна з пагардлівай усмешкай зашпільвала гузікі.

— Няўжо ты нічога не чула? Толькі што нехта выразна сказаў, што пачакае, пакуль мы скончым.

— Бедненькі, дах паехаў на глебе ўстрымання, — яна ўзяла з падваконня сумачку і, віхляючы бёдрамі, пайшла да дзвярэй.

— Пачакай! — я кінуўся за ёй, але зноў нехта ўмяшаўся:

— Не трымай, хай ідзе.

Я аслупянеў. Напэўна, мой дах сапраўды ехаў. Далёка ўнізе тамілася ў каменных берагах Свіслач. Па нябачным з-за зялёнага голля мосце шамацелі машыны. І нехта ці нешта перашкаджае мне зрабіць тое, дзеля чаго я тут, уласна, апынуўся.

— Пашукай сабе іншую дурніцу!.. — данеслася з лесвіцы.

Раптам я зразумеў, што незнаёмы голас сапраўды ніадкуль не ідзе. Ён гучаў у маёй галаве. Ад нечаканасці я ажно сеў. Я любіў чытаць пра тэлепатыю, лятальныя талеркі ды іншую трасцу. Але каб на самай справе, ды яшчэ са мной? Я ўмомант забыўся на дзяўчыну з яе крыўднымі словамі і на ўсё астатняе.

Праз колькі часу я ўжо спакойна, быццам так і патрэбна было, без слоў размаўляў і задаваў пытанні некаму ці нечаму ў сабе самім.

— Дык хто ты ўрэшце такі?

— Я — штучны розум малога карабля. У нас было пашкоджана магнітнае поле, з дапамогай якога мы перасоўваемся ў прасторы, і вашыя самалёты падбілі наш карабель. Ужо трэці дзень я знаходжуся ў гэтым будынку, і ты павінен мне дапамагчы.

— Збілі нашыя самалёты? Тры дні таму? — У гэта з цяжкасцю верылася. — Я ведаю, што амерыканцы калісьці збілі лятальную талерку. А тут толькі што — у нашай краіне?.. Пра гэта абавязкова напісалі б.

Ён цярпліва і лаканічна тлумачыў далей:

— Звесткі ў прэсе — фантазія. Вашыя вайскоўцы ведаюць больш за амерыканцаў. Проста ў вас усё лепш засакрэчана. Да таго ж нашыя апараты, нават падбітыя і ўбачным спектры, звычайна саматліквідуюцца. Застаецца толькі розум, які збірае ўсю інфармацыю...

Пачало змяркацца, а я ўсё слухаў і зрэдчас задаваў пытанні:

— Чым жа я магу табе дапамагчы?

— Мне патрэбна твая біяэнергія.

— Дзе ты зараз знаходзішся?

— У куце справа ад вакна... — Пасля кароткай паўзы накіраваў мяне голас: — Нахіліся і бяры.

Я падпарадкаваўся. Кавалкі атынкоўкі на падлозе, сляды блакітных шпалераў на сцяне — у куце нікога не было. Я асцярожна працягнуў рукі ў пустату. На ўзроўні каленяў пальцы сутыкнуліся з нечым цвёрдым і нябачным.

Было такое ўражанне, што ў мяне ў руках ідэалёва круглы паветраны шарык. Гладкі, цвёрды і амаль бязважкі. Я круціў яго, мацаў, падносіў да твару і нічога не мог разгледзець паміж сваімі далонямі. Раптам я адчуў у целе лёгкую слабасць, сцены паплылі і я пачаў праваливацца ў небыццё.

Прытомнасць вярнулася разам з тупым болем у галаве. Я адкрыў вочы і з хвіліну ляжаў, асляплены нясцерпна белым бляскам. Паступова боль аціх, і я ўбачыў зоркі на сінім начным небе. Было вельмі холадна. Я ляжаў на спіне і адчуваў незвычайную слабасць ва ўсім целе. Нібы мяне скруцілі і добра выціснулі. Я з цяжкасцю падняўся, у вачах пацямнела. Каб не ўпасці, мусіў хутчэй прытуліцца да сцяны. Не, лепш сесці. Я пачаў узгадваць, што са мной было і як я тут апынуўся. Апошняе, што памятаў — гэта дзіўны шар у руках. Пасля... Што было пасля? Бліскучая спіраль, у якой мяне круціла. Ці гэта быў тунель? М-м-м, як галава баліць. Здаецца, у кішэні павінен быць "Беламор". Я намацаў пачак і выцягнуў папяросу. Недзе побач пачуліся асцярожныя крокі. Ад дыму ў галаве памутнела, і я зноў праваліўся кудысьці.

— Гэй, прачніся. Што з табой? — нехта асцярожна трос мяне за плечы.

Я расплюшчыў павекі і прыемна здзівіўся. Прыгожая дзяўчына ў жоўтай сукенцы, якая даўно знікла адсюль, цяпер спачувальна гладзіла мяне па шчацэ.

— Бедненькі, ты што, паміраць тут сабраўся?

Я з удзячнасцю паглядзеў на сваю знаёмую:

— Зараз паспрабую растлумачыць.

Яна дапамагла мне падняцца, і мы паціху пайшлі да выхаду.

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 34–36, 38–50.).

## РАЗДЗЕЛ 7

***Субота, 2 красавіка 1983 г. Варшава, гмах МУС.***

Канферэнц-зала, з якой генерал Казімеж Краско абвяшчаў свае патрабаванні да Службы Бяспекі, была папросту ягоным пунктам кіравання. На сцяне з боку калідора знаходзілася дошка з надпісам "Кіраўніцтва МУС", на якой былі пералічаны ўсе значныя асобы, ад віцэ-міністраў да шэфа, а таксама 49 ваяводстваў. За паўгадзіны да пачатку тэлеканферэнцыі ўключалі апаратуру. Калі таварыш міністр звяртаўся да размешчаных перад ім мікрафонаў, з другога боку дзвярэй загараўся надпіс: "Тэлеканферэнцыя, не ўваходзіць". Тады пункт кіравання пераносіўся ў суседні пакой і не дай Божа, каб у гэты час нешта здарылася. Але лёс быў нязвыкла ласкавым, а міністр сціслым, дык і тэлеканферэнцыі не былі залішне доўгімі.

Апарат для тэлеканферэнцыі быў вяршыняй польскай тэхнічнай думкі. Замест нумаранабіральніка ў тэлефон уманціраваны дынамік, побач — мікрафон і пераключальнік з надпісам "просьба голасу". Пасля націскання пераключальніка на апараце, на дошцы і ў кабінеце міністра загараўся агеньчык пад назвай "ваяводства". Такія апараты стаялі толькі ў нешматлікіх кабінетах, а валоданне імі азначала, што ўладальнік знаходзіцца на ўзроўні "кіраўніцтва".

Пад час тэлеканферэнцыі тэлефонны апарат, які дагэтуль сціпла стаяў сярод чатырох ці пяці іншых, выходзіў з укрыцця і рабіўся цэнтральнай кропкай кабінета. Менавіта гэта адбывалася ў кабінеце дырэктара Трэцяга Дэпартамента Генрыка Котаса. Ля стала сабралася некалькі палкоўнікаў і запрошаных дырэктарам начальнікаў аддзелаў, каб выслухаць заданні, звязаныя з візітам Папы. Калі ўжо ўсталявалася атмасфера поўнай павагі, з дынаміка разляцеўся слабы трэск, а потым рык:

— Пачынаем тэлеканферэнцыю таварыша міністра Казімежа Краско! Вітаю таварышаў. Спачатку выступіць таварыш міністр.

Усе прысутныя ўзіраліся ў рыкаючы апарат, які меў тую загану, што не мог быць ані сцішаны, ані выключаны. Заставалася толькі слухаць...

Пасля тэлеканферэнцыі дырэктар Котас застаўся ў кабінеце адзін. Міністр заўсёды быў патрабавальным, а гэтым разам асабліва дасталося "тройцы". Ён атрымаў вельмі шмат новых распараджэнняў, але ўвогуле быў задаволены. Нарэшце было ясна сказана, што льгот для апазіцыі не існуе, а ўвогуле было б вельмі добра, калі б 1 і 3 мая апазіцыя прадэманстравала сваю неарганізаванасць і тым самым зрабіла немагчымай папскую пілігрымку. Нават гэтыя нерашучыя генералы згадзіліся: 1 і 3 мая — гэта дні выпрабавання. Яны будуць днямі выпрабавання не толькі для апазіцыі, але чарговай, можа, адной з важнейшых праверак спраўнасці Службы Бяспекі.

Ён выклікаў сакратарку і пачаў дыктаваць ёй пільную шыфраграму аддзелам МУС:

*Атрымаўшы загад шэфа Службы Бяспекі — намесніка дзяржаўнага сакратара, генерала брыгады Казімежа Краско пад час тэлеканферэнцыі 2 красавіка г.г., распараджаюся:*

*1. Вызначыць дзеля наступнага часовага затрымання асоб, якія 1—3 мая, а таксама пад час візіту Папы ў Польшчу ў г.г. могуць актывізаваць варожую дзейнасць і парушаць грамадскі парадак.*

*2. Вызначыць асоб, якія патрабуюць правядзення з імі прафілактычна-папераджальных размоў з мэтай нейтралізацыі іхняй варожай дзейнасці і ўдзелу ў магчымых недазволеных дэманстрацыях.*

*3. Падрыхтаваныя спісы вызначаных асоб павінны змяшчаць такія звесткі і сціслае апісанне іхняй шкадлівай дзейнасці, якія даюць падставы да затрымання ці правядзення прафілактычна-папераджальнай размовы.*

*4. Падрыхтаваныя спісы неабходна пераслаць у тэрмін да 14.04.83 у восьмы аддзел Трэцяга Дэпартамента МУС".*

Дырэктар Котас яшчэ раз прагледзеў змест шыфраграмы і размашыста падпісаў яе. Ведаў, што кіраваная ім машына хутка рушыць наперад. З цікавасцю пачакаем эфектаў, падумаў дырэктар.

***Аўторак, 19 красавіка. Варшава, прэс-цэнтр "Інтэрпрэс". Прэс-канферэнцыя прадстаўніка ўрада па сувязях з друкам.***

*Ёрг Громэр — Frafnfurkter Allgemeine Zeitung:*

*— Учора адбылося пасяджэнне агульнай камісіі, на якім быў абмеркаваны план візіту Папы. Ці не маглі б вы расказаць пра гэта больш падрабязна?*

*Міністр Ежы Урбан:*

*— Я скажу няшмат. Магу паведаміць, што пытанні, якія датычылі праграмы, былі вырашаны. Напрыклад, учора ішла гаворка аб наступным: пасля аналізу сітуацыі ў Пекарах Сьлёнскіх касцельны бок прызнаў, што магчымасці прыняцця большай колькасці пілігрымаў няма. Гэта выклікана абмежаваннямі з транспартам, жытлом і інш., якія вынікаюць з вялікага напльву людзей. У выніку касцельны бок рашыўся на перавоз абраза Маці Божай з Пекар у Катавіцы, якія наведае Папа. Прадстаўнікі ўрада прынялі гэтую прапанову.*

*...Магу толькі падкрэсліць, што супярэчнасцяў у пытаннях арганізацыі візіту няма, а кансультацыі ідуць спакойна, у дзелавой атмасферы. Па-за гэтымі перамовамі Міністэрства ўнутраных спраў кантактуе з Ватыканам у пытаннях, звязаных з аховай Папы.*

*Дэвід Сторы — агенцтва Rauter:*

*— Ці абмяркоўваўся на пасяджэнні ўрадава-касцельнай камісіі зварот аб дэманстрацыі ў пачатку мая? і другое: калі б дайшло да вялікіх дэманстрацыяў 1 мая, ці магло б гэта прывесці да скасавання ці пераносу візіту Папы?*

*Міністр Ежы Урбан:*

*— Ці былі абмеркаваны гэтыя справы — не адкажу, паколькі нарады праходзяць за зачыненымі дзвярыма і я магу толькі здагадвацца аб выніках і характары перамоваў, што датычаць візіту Папы. Як заўсёды закраналася тэма грамадска-палітычнай сітуацыі ў краі. Беспарадкі (калі б яны маглі адбыцца) ускладнілі б сітуацыю і паўплывалі б на ўмовы візіту. Але мы не разлічваем на нейкія забурэнні, бо гэта магло б паўплываць на жаданне Папы наведаць Польшчу і гатоўнасць прыняцця яго ўрадам і Епіскапатам.*

З прычыны бяспекі аўтара выдавец не называе ягонага прозвішча

ЗАБІЦЬ ГЭТАГА ПАЛЯКА

Выдавецтва РОК Corporation, Варшава,1991

***Той самы дзень, гмах МУС.***

Прагляд матэрыялаў, якія прыйшлі ў адказ на шыфраграму дырэктара Трэцяга Дэпартамента, заняў амаль тыдзень. Намеснік дырэктара, палкоўнік Кшыштаф Станіслаўскі, з самага ранку сядзеў над звесткамі з месцаў. Праўда, восьмы аддзел ужо зрабіў уступны аналіз, але прапановы палкоўнік мусіў рабіць сам. Заданне было занадта важным, каб дапусціць памылку. Папярэдняе вывучэнне рапартаў не настроіла дырэктара занадта аптымістычна. Меў цвёрдае перакананне, што ў некалькіх выпадках праца выканана, як звычайна, нядбайна, што не ўзбуджала вялікіх спадзяванняў на правакаванне апазіцыйных асяродкаў на выступленні 1 і 3 мая. Найбольш раздражнялі яго ваяводствы, якія нават не пераслалі ўсе даныя. На тых справаздачах ужо стаяла нататка начальніка аддзела: "Пажадана пільнае ўдакладненне".

Праз некалькі гадзін рапарты ляжалі на стале дырэктара ў патрэбным парадку. Найперш — рапарты з ягонага ўласнага 9 аддзела, потым — з ваяводстваў, якія меўся наведаць Папа, потым астатнія і нарэшце — падсумаванне. З апошняга вынікала: праца выканана вялікая, але ці плённая?

Гэта хай ужо сам ацэніць наш шаноўны... Кутас, падумаў ён, зласліва перайначыўшы прозвішча дырэктара, як гэта рабіла большасць маладых працаўнікоў аддзела. Дарэчы, да ціхай радасці старэйшых. Усміхнуўся сам сабе, узгадаўшы легендарную ўжо сцэну мінулага года, калі новай сакратарцы дырэктара загадалі пільна выклікаць яго з нейкай важнай нарады.

— Толькі не памыліся, дзяўчына, — са смехам кінуў ёй нехта, калі тая бегла ў канферэнц-залу.

Ціха адчыніла дзверы залы. Усе прысутныя павярнулі галовы да яе.

— Прашу прабачэння, — сказала яна напружана. — Ці ёсць тут таварыш дырэктар... Хой?

Павесялеўшы, Станіслаўскі пачаў яшчэ раз праглядаць спісы асоб, якіх планавалася затрымаць. Гэту галерэю славы апазіцыі адкрываў адвакат Ян Альшэўскі. Аўтар нататкі з грыфам "сакрэтна" абгрунтоўваў неабходнасць уключэння адваката ў спіс арыштаваных:

"*...згаданая асоба на працягу некалькіх гадоў уваходзіць у склад вузкага кола асоб, што кіруюць антысацыялістычнай дзейнасцю ў Польшчы. Са жніўня 1980 да 13 снежня 1981 ён быў праўным дарадцам НСПС "Салідарнасць", адным з аўтараў Статута "Салідарнасці", браў актыўны ўдзел у перамовах паміж урадам і рабочымі арганізацыямі. У час вайсковага стану арганізаваў прававую дапамогу для інтэрніраваных, а таксама аскарджаных паводле дэкрэта. У жніўні 1982 быў сааўтарам ліста-звароту аб аднаўленні "Салідарнасці". Ёсць інфармацыя аб рыхтаванай актывізацыі нелегальных падпольных структур перад 1 мая. Беручы пад увагу пералічанае, магчыма дапусціць, што Я.Альшэўскі ва ўмовах грамадскага напружання ці вулічных дэманстрацый актывізуе сваю інспірацыйную дзейнасць з мэтай парушэння парадку і грамадскай бяспекі ў маі г.г. Апрацавана ў 9 аддзеле 3 Дэпартамента МУС".*

Наступным быў адвакат Уладыслаў Сіла-Навіцкі. Тут аўтар жыццяпісу кандыдата на затрыманне заўважыў:

"*Пасля прыпынення вайсковага стану зрабіўся арганізатарам сустрэч асоб, паходзячых з былых дарадцаў "Салідарнасці" і радыкальных дзеячаў гэтага аб'яднання, пад час якіх былі выпрацаваны канцэпцыі і тактыка дзеяння нелегальных падпольных структур, у т.л. 1.05 і 3.05 г.г., а таксама пад час візіту Папы ў краіну. Актыўна падштурхоўваў Л.Валенсу да дзейнасці грамадска-палітычнага накірунку".*

"Беручы пад увагу згаданае, існуюць абгрунтаваныя прычыны..." — не пакутуючы ў шуканні фармулёўкі, зласліва заўважыў Станіслаўскі.

Рапарт 5 аддзела амаль рассмяшыў. Гэтыя ідыёты збіраліся правесці папераджальную размову з Леапольдам Кумантам, Юзэфам Рыбіцкім, Стэфанам Сташэўскім як з асобамі, што збіраюцца ўзяць удзел у нелегальных дэманстрацыях. Толькі спіс 4 аддзела рашуча палепшыў ягоны настрой. Гэта ўжо было нешта. Спіс адкрываў стары знаёмы Томаш Яструн:

"*...вядзе антысацыялістычную дзейнасць у літаратурным асяроддзі, мае кантакты з падполлем, натхняльнік і арганізатар нелегальных публікацыяў, падтрымлівае кантакты з прадстаўнікамі былой "Салідарнасці"*.

Далей таксама ішлі знаёмыя прозвішчы: Казімеж Дзеваноўскі, Юзэф Кусьмерак:

"*...аўтар матэрыялаў негатыўнай палітычнай накіраванасці, якія падрываюць давер грамадства да партыйна-ўрадавага кіраўніцтва, утрымліваюць негатыўныя грамадска-палітычныя і эканамічныя прагнозы*".

— Калі ласка, нават пані, — буркнуў ён, убачыўшы прозвішчы Барбары Пец-Сьлесіцкай і Крысціны Янды. Спіс замыкаў, з нумарамі 13 і 14, Ян Петжак:

"*...апошнім часам арганізуе (часта нелегальна — без дазволу органаў цэнзуры) эстрадныя выступы выключна варожай накіраванасці*".

А яшчэ Тадэвуш Мазавецкі:

"*...ягоныя погляды падтрымліваюць найбольш актыўныя дзеячы апазіцыі, звязаныя з Касцёлам і дзейнасцю ў Грамадскай Радзе Прымаса.*

Чацвёрты аддзел папрацаваў сур'ёзна і прапанаваў таксама спіс кандыдатаў на ператрус. Спіс адкрываў Марэк Навакоўскі, а далей знаходзіліся ягоныя супрацоўнікі. Нават не паклапаціліся, каб абгрунтаваць прычыны, заўважыў Станіслаўскі і дапісаў: "Абгрунтаваць унясенне ў спіс".

Так. Павінен быць парадак, падумаў ён. Калі загадана абгрунтаваць, няхай не абцяжваюць сабе жыццё. Не збіраюся нічога за іх тлумачыць.

Наступны спіс — з другога аддзела. Гэтыя пастараліся і не толькі вызначылі кандыдатаў на размовы, але і прапанавалі суразмоўцаў.

І гэта ўсё. Так, у яго былі прычыны для неспакою. Вельмі сціплымі здаваліся гэтыя спісы.

Палкоўнік пацягнуўся, падняўся з-за стала і закурыў. Нервовым крокам прайшоў з кута ў кут кабінета. З задавальненнем выйшаў бы адсюль і паехаў у лес. Ён меў адчуванне, што змарнаваў час. Што дадуць гэтыя размовы? Кіраўніцтва, як і раней, паводзіла сябе нерашуча, цяжка зразумець, чаго яны там хочуць. Калісьці ўсё было прасцей. Тады прыціснеш апазіцыю — і канец! А цяпер? Часам яму здавалася, што ён выконвае спрэчныя загады. Не ведаў сам, чаго чакае ад Дэпартамента дырэктар Генрых Котас. Ці вынікам іхняй работы мусяць стаць хваляванні і адмена візіту Папы, ці мае быць спакой? На ўсялякі выпадак вырашыў забяспечыць сябе на абодвух франтах.

Ён узгадаў учарашнюю размову з хлопцамі з Варшавы.

— Панове, Варшава пад вашым кантролем, а апазіцыя дазваляе сабе зашмат! Асабліва моладзь. Не баяцца нічога! Ім патрэбная навука, падумайце аб гэтым. Не буду вас вучыць, але часам кій — найлепшы лекавы сродак.

Хлопцы прыкметна ажывіліся пасля гэтых слоў. Ён развітаўся з імі, сказаўшы:

— Вы прынеслі спісы кандыдатаў на размовы, але як надарыцца выпадак — пагаварыце і з іхнімі нашчадкамі.

Ён засмяяўся, задаволены гэтай ідэяй, і зноў пачаў пераглядваць спісы.

У дзвярах узнікла сакратарка:

— Даруйце, таварыш дырэктар, начальнік 8 аддзела прынёс дакументы.

Ён узяў паперы і расклаў на стале. Так, бачыў цяпер план усёй акцыі.

*Тайна, да асобага прызначэння.*

*Агульны спіс асоб, вызначаных да прафілактычна-папераджальных размоў у перыяд ад красавіка па чэрвень 1983 г.*

*1. Вызначаны да размоў:*

*а) аддзел 3 — 1163 асобы;*

*б) Трэці Дэпартамент МУС — 31 асоба.*

*Сацыяметрычныя даныя: працаўнікоў навукі і асветы — 364, студэнтаў — 192, вучняў — 98, работнікаў — 81, не працуючых — 59, юрысты і адвакаты — 22...*

Другі спіс не менш цікавы:

*Агульны спіс асоб, вызначаных да затрымання.*

*а) аддзел 3 — 267 асоб;*

*б) Трэці Дэпартамент МУС — 3 асобы.*

*Сярод іх — работнікі навукі і асветы — 74, вучні — 2, студэнты — 45, работнікі — 28, літаратары — 1, мастакі — 1, юрысты — 5.*

Палкоўнік паклаў спісы наверсе гары дакументаў.

— Пабачым, — ціха сказаў ён. Можа, хопіць. Калі не, дык...

***Серада, 27 красавіка. Масква, кабінет Генеральнага сакратара.***

Юрый Уладзіміравіч Андропаў стомленым рухам зняў акуляры і пацёр пачырванелыя ад недахопу сну вочы. Гэты дзень быў адным з найгоршых. Ён задумаўся. Ён, Генеральны сакратар ЦК КПСС, які прадстаўляў найвялікшую ў гісторыі свету імперыю, сёння мусіў ад імя сваёй краіны публічна прасіць аб літасці. Гэтага факта не маглі прыхаваць ані дыпламатычная мова, ані гладкія фразы, ані яскравыя лозунгі. Што з таго, што ён распараджаўся сілай, якая магла ператварыць ззяючыя агнямі гарады ў россыпы радыеактыўнага смецця? Добра ведаў, што прымяненне гэтай сілы было б самазабойствам, але дзякуючы ёй існавала раўнавага жаху.

Ягоным папярэднікам дагэтуль удавалася нівеліраваць тэхнічную перавагу Захаду пры дапамозе прымітыўнай, але вялікай вытворчасці ўзбраенняў, так што занепакоенаму свету падавалася, што Савецкі Саюз не толькі не застаецца ззаду, але высоўваецца наперад. Што з таго, што савецкія танкі псаваліся ў тры разы хутчэй за амерыканскія, калі выраблялі іх у дзесяць разоў больш? Так, дагэтуль усё было проста...

Ён пачуў гук інрэркома.

— Слухаю.

— Таварыш Генеральны сакратар, ужо ёсць першае данясенне агентуры аб рэакцыі на вашую сённяшнюю прамову. Прынесці?

— Падрыхтуйце кароткі агляд, але дайце спакой з сатэлітарнымі краінамі. Шкада часу.

Зноў усталявалася цішыня. Успамін аб сённяшняй прамове пёк як распаленае жалеза. Ён, Андропаў, сёння публічна заклікаў Злучаныя Штаты прыняць сумесную дэкларацыю аб забароне размяшчэння любой зброі ў космасе. Прыйшло параўнанне з баксёрам, які, лежачы на рынгу, заклікае праціўніка згадзіцца на нічыю. Як да гэтага дайшло?

Першыя сігналы аб "зорных войнах" ён атрымаў яшчэ ў мінулым годзе. Спробы паўплываць на гэтага каўбоя, як ён называў Рэйгана, скончыліся нічым. Выкарыстаў усе сродкі, усе магчымыя каналы, каб пераканаць Вашынгтон у тым, што неабходны час дзеля расправы з "ястрабамі" ў Палітбюро. Заходнія карэспандэнты, якімі маніпуліравалі, даючы дэзінфармацыю, амаль аднагалосна прадстаўлялі яго як разважлівага ліберала, амаль дэмакратычнага палітыка, сапраўднага "голуба", якому патрэбны час і дапамога ў рэфармаванні Савецкага Саюза.

Ён меў няшмат спадзяванняў, але яшчэ верыў, што так, як і дагэтуль, здолее пераканаць большасць асяродкаў, што ствараюць грамадскі погляд на Захадзе. Прынамсі настолькі, каб там не сачылі за кожным ягоным рухам. Ці ж усе згодна не вылузваліся са скуры, каб не звязваць ягонай асобы з замахам на Папу? Ці ж не заблакіравалі атрыманне Белым домам найбольш кампраметуючых яго звестак? Так, але цяпер усё гэта вярнулася як бумеранг.

Націснуў гузік інтэркома:

— Колькі яшчэ чакаць гэты агляд?! — сказаў ён са са злосцю. — І папрашу выклікаць таварыша Горбава.

**Пераклад У.ПАНАДЫ.**

Ад рэдакцыі: Шаноўныя чытачы, мы пазнаёмілі вас з раздзеламі з кнігі "Забіць гэтага паляка", выдадзенай у мінулым годзе ў Польшчы. Ці зацікавіў вас гэты дакументальны дэтэктыў? Спадзяёмся, вашы лісты адкажуць на гэтае пытанне. Чакаем вашых водгукаў і прапаноў.

# ...ДЗЕ НА ЎСІХ



**Пакуль у мяне не нарадзілася дачка, на многія рэчы я глядзела інакш. Дзіцячы плач раздражняў — хацелася падысці і спытаць: ну чаго табе, малое, не хапае?**

**Пасля з'яўлення на свет дзяўчынкі я нібыта нарадзілася другі раз. І нечакана адчула адказнасць перад нейкім вышэйшым Розумам. За яе жыццё. За сваё жыццё, таму што з гэтай хвіліны яно перастала належаць толькі мне адной.**

**Зараз я гляджу на навакольны свет яе вачыма — шкадую ўсіх чацвераногіх, кармлю батонам качак на Свіслачы, выгаворваю хлопчыкам, што ламаюць галінкі на дрэвах... Гэта яна штодзённа выхоўвае мяне. Гэта дзякуючы ёй я ўспрымаю боль і пакуты кожнага дзіцяці як свой уласны, адчуваючы яго амаль фізічна. Гэта да яе я іду, як да выра-**



ТУТ ЦЯЖКА стрымаць слёзы і менш сентыментальным людзям, чым я. Зрэшты, у мінскім гарадскім доме дзіцяці № 2 да слёз "прывыклі". Да ўсялякіх. Шчырых і паказушных.

А ўвогуле — кожнае дзіця мае права на бацькоў. Ну кожнае. Адоранае, бяздарнае, здаровае, пакалечанае, буяннае, сарамлівае, відушчае, сляпое, бязногае... Таму што яно — маленькае, а сям'я — менавіта тая біялагічная сфера, у якой чалавек мае патрэбу, каб вырасці здаровым і разумным, а не хворым і непаўнацэнным. У нас гэта права пастаянна парушаецца. Дзеці па-ранейшаму абсалютна не абароненыя, затое ў адносінах да бацькоў, якія назаўсёды адмовілі дзіцяці ў клопатах і пяшчоце, грамадства праяўляе дзіўную гуманнасць. За сваё злачынства — ці то адмаўленне ад дзіцяці ў раддоме, ці бесчалавечнае абыходжанне з ім потым — маці не нясе, па сутнасці, ніякай адказнасці. Чамусьці прынята лічыць, што жанчына, пазбаўленая мацярынскіх правоў, ужо пакутуе маральна. Ды няпраўда гэта. Зусім яна не пакутуе, хіба што ў п'яным чадзе пралівае кракадзілавыя слёзы. Але нават такая мама мае права на аднаўленне свайго бацькоўскага статуса. На жаль, ні ў адным законе не агаворана, на якія часовыя рамкі ў гэтым выпадку арыентавацца ўстановам, што прынялі дзіця пад сваю апеку. Юрыдычна галоўны ўрач Алена Аляксандраўна Бязуглая можа ўжо праз дзесяць дзён пасля рашэння суда аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў аддаць дзіця на выхаванне ў чужую сям'ю.

Вось тут яе "парог" і пачынаюць "абіваць" былыя (ужо) мамы і таты. На законных падставах (пасля атрымання дазволу раённага інспектара па апецы і папячыцельству) яны патрабуюць сустрэч са сваімі дзецьмі. Толькі сустрэч, не больш. А як жа яшчэ? Яно і зручна, і выгадна. З аднаго боку, дзяржава ўжо прыступіла да выхавання тваіх уласных дзяцей, з другога — і цябе не адшывае, а дае магчымасць выправіцца. Алена Аляксандраўна — не каменная. Маленькая, тонка-лявая, вельмі мужная. Жанчына, якая верыць і верує. У добры чалавечы пачатак, у мацярынскі інстынкт, у апошняе сумленне, нарэшце. Але... Праходзіць і дзесяць, і сто дзесяць дзён "афіцыйнага" сіроцтва. Гора-бацькі перыядычна наведваюць дзіця, яно бязмерна шчаслівае пасля гэтых наведванняў. Хоць па вялікаму рахунку — па самаму вялікаму і галоўнаму — ні тату, ні маме яно непатрэбна. Забіраць яго назад яны не хочуць. Або, дакладней сказаць, не могуць, таму што не ў стане змяніць свой ранейшы спосаб жыцця. Але забараніць ім маячыць на далягля́дзе, без патрэбы нагадваць пра сябе Алена Аляксандраўна не мае маральнага права.

Яна шукае. Шукае і знаходзіць сем'і, здольныя ўзяць на сябе велізарную адказнасць — адказнасць за выхаванне дзіцяці. Два гады таму іх было чатырнаццаць, год назад — сорак, у гэтым годзе будзе каля сямідзесяці. Дзіцячы дом, якому "ў спадчыну" дастаюцца ўсе трох-чатырохгадовыя "выпускнікі" Алены Аляксандраўны, пачынае паціху абурацца: чаго добрага, праз пару год Бязуглая нас зусім без работы пакіне... Не, Алена Аляксандраўна не мае нічога супраць выхавальнікаў дзіцячых дамоў, паважаючы і разумеючы іх нялёгкую працу. Але ўсё, што робіць гэта жанчына, — яна робіць, зыходзячы ў першую чаргу з інтарэсаў дзіцяці. Яна ўпэўнена: калі выхавальнікам сіроцкіх устаноў не будзе каго выхоўваць, грамадства стане крышачку больш нармальным.

Чым раней адбудзецца ўсынаўленне — тым лепш. Ніякая, нават самая дасканалая структура дамоў сіроцкага тыпу не можа замяніць бацькоў. Якімі б добрымі ні былі цёткі і дзядзькі — іх шмат, яны розныя, да іх трэба прыстасоўвацца, пад кожнага — падстройвацца. Раніцай — пад цёцю Машу, удзень — пад цёцю Свету, вечарам — пад цёцю Таню... Якая нервовая сістэма можа гэта вытрымаць? Тым больш калі ў дзіцяці яна ўжо разладжаная да апошняга...

Новая сям'я — новы свет. Вялікі, чужы свет, у які павінен увайсці маленькі. Бя-





# НАБРАЦЦА МАМ?

**тавання, каб хоць на некаторы час забыцца пра бясконцыя праблемы.**

**Ці можна яе сур'ёзна пакрыўдзіць, калі не лічыць крыўдай пагрозы накшталт "сёння ты цукеркі не атрымаеш!"? І хіба можа быць інакш?**

**А зараз — у бок эмоцыі. Мы цудоўна ведаем: інакш быць — можа. Настолькі інакш, што дзіву даешся. Ці зусім крыжа на нас няма, што сваё, роднае, кроўнае, вынашанае і ў пакутах народжанае,— адвяргаем, не даўшы яму паспытаць нават смаку матчынага малака? Прыносім зусім бездапаможную істоту, якой неабходны пяшчота і абарона, у ахвяру сваім марным, мітуслівым і недаўгавечным уяўленням аб жыцці?**




зуглая разумее, наколькі гэта адказна, і як страшна, калі ў іх не знойдзецца ніводнай кропкі сутыкнення. Памылка раўназначная трагедыі. Але хто ў наш час можа даваць стопрацэнтныя гарантыі? Хіба што Бог. Магчыма таму, перш чым прыняць на сябе ролю суддзі ў вырашэнні дзіцячага лёсу, просіць у яго парады і дапамогі Алена Аляксандраўна.

У апошні час зняты многія жорсткія супрацьпаказанні па ўсынаўленню дзяцей новымі бацькамі. Мы, нарэшце, пачалі ўсведамляць, што любая сям'я, нават інтэрнацыянальная, нават замежная лепшая, чым поўная яе адсутнасць, здаравейшая, чым сурагатны замяняльнік у выглядзе айчыннага калектыву выхавальнікаў.

Крыўдна, але людзі, якія прыязджаюць "адтуль", аказваюцца куды больш успрымальнымі да нашых бедаў, міласэрнымі, добрымі. (Магчыма, толькі таму, што ў іх зусім іншыя сацыяльныя і матэрыяльныя магчымасці.) Да "іх" звяртаюцца ў крайнім выпадку, калі ўжо зусім няма куды "ўладкаваць" няшчаснае дзіця з вялікай колькасцю парокаў развіцця. Калі нікому з "нашых" не ўпадабаліся "заечая" губа або прыроджаная касалапасць, або... або... або... (Адносна здаровае дзіця таксама можа перадавацца на выхаванне замежным грамадзянам, калі некалькі спроб знайсці яму сям'ю сярод суайчыннікаў не ўвянчаліся поспехам.)

Мы лічылі, што толькі ў беднасце (прабачце, у роўнасці) нараджаецца сапраўдная міласэрнасць. Зноў памыліліся. Жабрацтва нараджае азлабленне, атупенне, абыякавасць... "Яны" аказаліся дабрэйшымі за нас. Настолькі дабрэйшымі, што пастараліся наладзіць "сваім" інвалідам нармальнае, чалавечае жыццё. Я не імкнуся нікога разжаліць ці — ратуй Божа — у чымсьці абвінаваціць. (Разумею, як цяжка нам усім жывецца.) Але не магу не расказаць пра Волю — дзяўчынку, якая мела няшчасце нарадзіцца без ножкі, і таму мама пакінула яе ў раддоме... Вельмі складана аказалася знайсці ёй бацькоў. Калі Волечцы споўнілася тры гады, узнікла пытанне аб тым, куды ж яе ўладкаваць: у дзіцячы дом ці ў дом інвалідаў? Першая ўстанова ад дзіцяці адмовілася. А ў другое Бязуглая сама не захацела адпраўляць дзяўчынку. Вырашылі пакінуць Волю ў сябе яшчэ на год, і на працягу гэтага часу знайсці ёй сям'ю. Усе надзеі на суайчыннікаў рухнулі. Алена Аляксандраўна, заходзячы ў групу, пастаянна чула ад Волі адно і тое ж упартае пытанне: "А ты мне маму і тату прывядзеш?" (Волечка расла разумненькай і кемлівай дзяўчынкай, яна адразу "вылічыла" цёцю, якая прыводзіла дзецям мам і татаў.)

"Прывяду", — цвёрда паабяцала Алена Аляксандраўна. "Мама" знайшлася ў Амерыцы. Адзінокая жанчына-адвакат прыслала цёплае, кранаючае пісьмо, свой фотаздымак і здымкі сваіх братоў і сёстраў. "Скажыце дзяўчынцы, — пісала яна, — што гэта яе мама, дзядзькі і цёткі. Перадайце, што я абавязкова прыеду на яе дзень нараджэння і забяру з сабой..." Алена Аляксандраўна, не ўпэўненая абсалютна ні ў чым, на свой страх і рызыку паказала дзяўчынцы фатаграфію. Дзяўчынка пагладзіла далонькай незнаёмую жанчыну і ўсміхнулася: "Мая мама..." Відаць, так бывае толькі ў дрэнных меладрамах і ў жыцці. Амерыканка пераступіла парог дома дзіцяці менавіта ў той дзень, калі Волі споўнілася чатыры. Яны пазналі адна адну імгненна. Дзяўчынка сядзела ў інвалідгай калясцы, і толькі гэта перашкодзіла ёй кінуцца да жанчыны з фотаздымка. Яна пацягнула рукі насустрач маме, якая ўжо бегла да яе... Цэлы дзень перакладчык не адыходзіў ад іх ні на хвіліну — ім так многа трэба было сказаць адна адной...

Скажу шчыра, больш я нічога не магу да гэтага дадаць.

Наталля СТРАЛКОВА.
Фота Сяргея БРУШКО.





# СЯРОД ШУМНАГА БАЛЮ



Яго чакалі з нейкім хваляваннем, і само гэта чаканне было ўжо чымсьці незвычайным у наш цяперашні час, калі мы перасталі спадзявацца на цуд, на сюрпрыз, на падарунак. Толькі назва — "Алімпійскі баль" — ужо абяцала нешта ці даўно забытае, ці яшчэ нязведанае. Нават гледачоў на гэтае прадстаўленне запрашалі толькі "знаёмых": у продажы білетаў не было...

Свята, нарэшце, адбылося тыдзень таму ў Мінскім палацы спорту. Але, як высветлілася, назва засталася назвай, а "мерапрыемства" засталося мерапрыемствам. Абмежаванасць уваходу для гледачоў "збоку" прывяла толькі да вялікай колькасці пустых месцаў у зале замест запланаванага аншлага. "Масавасць" стваралі нават салдаты і студэнты Акадэміі фізічнага выхавання.

Алімпійцаў гледачам толькі "паказалі". Мы нават не пачулі імёнаў тых, хто на працягу апошняга саракагоддзя заваёўваў алімпійскую славу для Беларусі. Гэтыя людзі толькі няёмка пастаялі шарэнгай на сцэне пад гукі духавога аркестра і потым занялі свае месцы сярод гледачоў. Стварылася ўражанне, што гэта свята, якое рабілася быццам дзеля іх, іх святам не стала.

Гэта быў, у рэшце рэшт, не баль, а проста канцэрт, які мог быць прысвечаны любому святу: адкрыццю з'езда ці святкаванню Перамогі. Хаця былі і "спартыўныя" нумары ў праграме: на памост у цэнтры залы выходзілі выхаванцы цудоўнага "баскетбольнага" дзіцячага садка і гімнастычнай спартыўнай школы, маладыя атлеты з гірамі і група аэробікі з медінстытута. Зразумела, прыемна было ўбачыць на сцэне Ядвігу Паплаўскую і Аляксандра Ціхановіча, "Верасоў", "Песняроў" і "Сяброў". Але, на жаль, былі толькі менавіта выступленні, ніякіх жывых слоў, ніякіх адступленняў ад праграмы, крый Божа! Нашы алімпійцы, якія, дарэчы, прыехалі з розных беларускіх гарадоў, маглі сустрэцца і проста пагаварыць толькі тады, калі... выходзілі з залы ў фае.

Сапраўдным падарункам ад сэрца быў торт, выпечаны кандытарамі алімпійскай базы ў Раўбічах. Але нават яго пакаштаваць удалося не ўсім — многія спяшаліся дадому. Такое ж пачуццё — непакаштаванага торту — засталося і ў мяне пасля гэтага балю. Узняло настрой іншае: усё ж гэтае свята дало магчымасць сустрэцца з нашымі алімпійскімі чэмпіёнамі, амаль з усімі разам. А некаторым з іх, дарэчы, задаць некалькі пытанняў ад імя чытачоў "Чырвонай змены".

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.
Малюнак Віктара ДУБОВІКА.



## Лік на табло

Два матчы перад перапынкам у розыгрышы Кубка МХЛ, звязаным з чарговым традыцыйным турнірам на прыз "Известий", даволі паспяхова правялі мінскія дынамаўцы. Спачатку ў Яраслаўлі яны згулялі ўнічыю з "Тарпеда" – 3:3, потым у Чарапаўцы перамаглі мясцовы "Металург" – 5:4.

У тыя ж дні ў тых жа гарадах гулялі гродзенскі "Нёман" і наваполацкі "Хімік". На жаль, гродзенцы ў адным з двух матчаў прайгралі яраслаўскаму "Ярінтэркому" – 2:4 (першы выйгралі – 2:1). "Хімік" двойчы перамог чарапавецкі "Металург-2" – 4:3 і 3:2. Пакуль, здаецца, у першай зоне адкрытага чэмпіянату Расіі ў беларускіх каманд канкурэнтаў няма.

* * *

Чарговы этап Кубка свету ў канькабежным спрынце прайшоў у Сеуле. На дыстанцыі 1000 метраў зноў двойчы перамог мінчанін Ігар Жалязоўскі. Ён упэўнена лідзіруе ў агульным заліку на сваёй любімай дыстанцыі. На 500-метроўцы Ігар уступае 10 ачкоў лідэру Дэну Джэнсену (ён у сваю чаргу двойчы перамог на гэтай дыстанцыі).

* * *

У Латвіі прайшоў першы чэмпіянат Еўропы па гіравым спорце. Каманда Беларусі ў агульным заліку заняла другое месца пасля зборнай Расіі. На рахунку нашых спартсменаў шэсць медалёў – па два кожнай вартасці. Нашы Валерый Лянгнер з Мінска і Віктар Калмук з Наваполацка перамаглі ў самых цяжкіх вагавых катэгорыях.

* * *

У Токіо адбыўся футбольны матч за Міжкантынентальны кубак паміж Іспанскай "Барселонай" і бразільскай камандай "Сан-Паулу". Хаця першай забіла "Барса" (гол на рахунку балгарына Стоічкава), бразілец Раі здолеў не толькі зраўняць лік, але і забіць пераможны мяч.



Старонку падрыхтаваў спартыўны аглядальнік Яўген ПУЧКОЎ

ВОДНАЕ ПОЛА

# І ЎСЁ Ж БЫЛА ІНТРЫГА...

Кубак Чарнаморска-Балтыйскай лігі па воднаму пола ўпершыню разыграны ў Мінскім палацы воднага спорту. Спаборніцтвы задуманы як працяг некалі папулярнага першынства рэспублікі на прызы газеты "Физкультурник Белоруссии".

Сапраўдная прага адшукаць найбольш выгадны варыянт гульнявой практыкі авалодала, бадай, ці не кожнай камандай, якая гуляла раней у чэмпіянаце краіны ў любым відзе спорту. Тое ж і ў ватэрпалістаў. Удзельніца справаздачнага турніру, каманда Малдовы знайшла такі варыянт, прыняўшы ўдзел у чэмпіянаце Румыніі. Украіна праводзіць уласны чэмпіянат. Добра, што ёсць чатыры моцныя каманды з Кіева, Львова, Севастопаля і Харкава. Хапаючыся за саломінку, на ўдзел у чэмпіянаце Украіны "напрасіліся" і беларускія ватэрпалісты (мінская каманда называецца зараз "Прыор"). Мінчане, дарэчы, пасля двух праведзеных тураў займаюць там 4-е месца і адстаюць ад трэцяй каманды на адно ачко. Літоўская каманда з усіх удзельнікаў розыгрышу Кубка Чарнаморска-Балтыйскай лігі зараз у самым горшым становішчы. Само па сабе літоўскае воднае пола было далёка не на першых пазіцыях у былым Саюзе. Цяпер яшчэ і энергетычны крызіс прыносіць пастаянныя "сюрпрызы" з адключэннем гарачай вады і электраэнергіі, у тым ліку і ў басейнах. Гэта надоўга, здаецца, сапсавала настрой нашым паўночным суседзям. Іх было па-сапраўднаму шкада. Чаго каштуе паражэнне ад зборнай Украіны з лікам, які наўрад ці сустрэнеш у любым гульнявым відзе спорту, – 2:30! Але літоўцы не збіраліся сумаваць. Яны былі рады хоць якой магчымасці сустрэцца з моцнымі камандамі і сваё чацвёртае месца лічаць ганаровым.

Наогул, у гэтым турніры прынялі ўдзел 6 каманд: Малдовы, Украіны, Беларусі, Літвы, "РШВСМ" (Мінск) і маладзёжная каманда, так званая "ртутная" група, у якую ўвайшлі запасныя зборных Малдовы і Беларусі і якая выступала па-за конкурсам. Два апошнія калектывы складаліся, як вы разумееце, на месцы, каб не рабіць на турніры выхадныя дні. Бо раней на спаборніцтвы заяўляліся каманды Санкт-Пецярбурга, Грузіі і клуб "Славія" з чэха-славацкага горада Братыслава. Па самых розных прычынах гэтыя калектывы недаехалі на турнір. У адваротным выпадку, першы Кубак Чарнаморска-Балтыйскай лігі атрымаўся б значна цікавейшым. Гэта зразумела. І ўсё ж была інтрыга, якая валодала гледачамі і ўдзельнікамі на працягу ўсіх пяці дзён спаборніцтваў. Ужо ў першы дзень, бадай, самую моцную, мяркуючы па ранейшых заслугах, каманду Украіны падвяла самаўпэўненасць і яна прайграла малдаванам тры мячы (10:13). Затым украінцы ўзялі сябе ў рукі і нанеслі паражэнне беларусам – 11:9. У апошні дзень нашым ватэрпалістам трэба было перайграць малдаван з розніцай як мінімум у тры мячы, каб стаць пераможцамі. Не атрымалася: лік на табло 10:8 на карысць зборнай Беларусі азначаў перамогу малдаван, другімі былі беларускія ватэрпалісты, на трэцім месцы – украінцы. Далей – Літва, РШВСМ, маладзёжная каманда.



Пасля апошняга матча трэнер каманды Малдовы Аляксандр Балтрамовіч у інтэрв'ю рэспубліканскаму радыё падзякаваў арганізатарам за добры прыём, а ўсім удзельнікам – за напружаную барацьбу. "Спаборніцтвы цікавыя самі па сабе, – сказаў ён, – і калі праз год збярэцца яшчэ больш каманд, турнір толькі выйграе".

Так, Кубак Чарнаморска-Балтыйскай лігі па воднаму пола вырашана зрабіць традыцыйным. Магчыма, ён будзе праходзіць па турах у кожнай са сталіц рэспублік, якія прадстаўляць свае зборныя, магчыма, формула розыгрышу будзе іншай. Ясна адно: турнір спадабаўся і ўсе ўдзельнікі – толькі за яго традыцыйнасць.

А зноў завочна сачыць за гульнёй ватэрпалістаў мінскага "Прыора" аматары змогуць ужо ў пачатку наступнага 1993 года. 22 студзеня стартуе трэці тур адкрытага чэмпіянату Украіны...

Аляксандр ПУЦІЛА.

Дзяжурны рэдактар П. СІМАНАЎ.
Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: Газетна-выдавецкая фірма "БЕЛАЯ РУСЬ"

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і зверстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс на 1992 г. — 63906, на 1993 — 63129. Тыраж 17 000.



Зак. № 51.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12